# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3223) Год LXIII | Беласток, 18 лютага 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Стыпендыі творцам → 3



Фэст аўтараў і кніг → 8




Фота: racyja.com

❖Аляксей МАРОЗ

**Рада Гайнаўскага павета 26 студзеня прызначыла 19 ганаровых званняў «Заслужаны для Гайнаўскага павета», у тым ліку Тыднёвіку беларусаў у Польшчы «Ніва». Адзнакі былі ўручаны 8 лютага ў памяшканнях суполкі «Пронар» у Гайнаўцы, якая восенню мінулага года адкрыла сваю фабрыку ў горадзе. Юбілейнае дзясятае ўручэнне адзнак «Заслужаны для Гайнаўскага павета» адбылося ў прысутнасці лаўрэатаў папярэдніх гадоў і шматлікіх гасцей.**

# «Ніва» годна звання «Заслужаны для Гайнаўскага павета»

Урачыстасць прысвоення ганаровых званняў «Заслужаны для Гайнаўскага павета» адкрыў староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк, які прывітаў сабраных. Былі сярод іх драгічынскі епіскап ксёндз прафесар Тадэвуш Пікус, дэкан Кляшчэлеўскай акругі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі, дэкан Нарваўскай акругі мітрафорны протаіерэй Васіль Рошчанка, праваслаўныя і каталіцкія святары, старшыня суполкі «Пронар» у Нарве Сяргей Мартынюк, дарадчык міністра адукацыі, а яшчэ нядаўна войт Боцькаўскай гміны Станіслаў Дэрэгайла, маршалак Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі, ваяводскія, павятовыя і гмінныя радныя, староста Бельскага павета Славамір Снарскі і бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» атрымаў у мінулым годзе, але тады не мог прыбыць на ўручэнне адзнак. На мерапрыемства прыбылі таксама войты гмін Гайнаўскага павета, гайнаўская віцэ-староста Ядвіга Дамброўская і кіраўнікі аддзяленняў Павятовага старавства ў Гайнаўцы, дырэктары школ, каменданты дзяржаўных мундзірных службаў рэгіёна, кіраўнікі шматлікіх установаў, прадпрымальнікі Гайнаўшчыны.

— Спаткаліся мы на юбілейнай дзясятай сустрэчы для ўручэння адзнак «Заслужаны для Гайнаўскага павета». З 2009 года прысвойваюцца яны Радай Гайнаўскага павета асобам, арганізацыям і прадпрыемствам, якія спрычыніліся да гаспадарчага і культурнага развіцця нашага павета, актыўна дзейнічаюць на грамадскіх пачатках у карысць жыхароў павета і яго прамуюць. Дагэтуль былі прызначаны 103 адзнакі «Заслужаны для Гайнаўскага павета», таксама старшыні суполкі «Пронар» у Нарве Сяргею Мартынюку і самой суполцы «Пронар», якая апрача прамысловай дзейнасці таксама прамуе наш павет на Польшчу і замежжа, — сказаў гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк.

Старшыня суполкі «Пронар» Сяргей Мартынюк звярнуўся да павятовых улад з прапановай арганізаваць навучанне новым прафесійным спецыяльнасцям, выпускнікі якіх знойдуць працу ў абсталяваных па сучаснаму прадпрыемствах. Заклікаў таксама сабраных не спыняць сваёй актыўнасці, фарміраваць новыя мары і старацца іх рэалізаваць у Гайнаўскім павеце. Староста Раманюк падзякаваў Сяргею Мартынюку за гасціннасць і ўручыў яму карціну, намаляваную гайнаўскім мастаком Пётрам Гаганам. Адзнакі ўручаліся лаўрэатам пад гукі Духавога аркестра Добраахвотнай пажарнай каманды ў Гайнаўцы, якім дырыжыруе Кшыштаф Раманюк. Аркестр даў таксама кароткі канцэрт. Пасля афіцыйнай урачыстасці ў сабраных была магчымасць паразмаўляць падчас пачастунку. Сярод сёлетніх лаўрэатаў звання «Заслужаны для Гайнаўскага павета» былі індывідуальныя асобы, прадстаўнікі суполак і няўрадавых арганізацый, у тым ліку наш тыднёвік «Ніва».

— «Ніва», якая выдаецца звыш 60 гадоў, паказвае жыццё жыхароў Гайнаўшчыны, нашы праблемы і поспехі. «Ніва» цэлы час застаецца блізкай жыхарам нашага рэгіёна, а пры гэтым не толькі прапагандуе беларускую мову, культуру і нашы традыцыі, але таксама прамуе Гайнаўскі павет і ўсім гэтым заслужыла званне «Заслужаны для Гайнаўскага павета», — сказаў гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк.

Адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» і дыплом з рук старасты Раманюка і старшыні Рады Гайнаўскага павета Леха Міхаляка атрымаў галоўны рэдактар Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» Яўген Вапа.

— Званне «Заслужаны для Гайнаўскага павета», прысвоенае нашаму тыднёвіку, гэта вылучэнне для нашых чытачоў, карэспандэнтаў і журналістаў. Зараз большасць журналістаў нашага тыднёвіка, як і я, родам з Гайнаўскага павета, многа нашых карэспандэнтаў пісалі і дасылаюць нам артыкулы з Гайнаўшчыны. Тыднёвік «Ніва» ўсебакова паказвае жыццё беларусаў у Гайнаўскім, Бельскім, Сакольскім і Сямятыцкім паветах. Адзнака «Заслужаны для Гайнаўскага павета» прысвоеная нашаму тыднёвіку, гэта доказ пашаны да беларусаў, якія чытаюць наш тыднёвік. Гэтая адзнака — першая, якую «Ніва» атрымала пасля 1989 года ад самаўрадаў Беласточчыны, па-за вылучэннем, якое мы атрымалі з нагоды нашага юбілею ад ваяводскага самаўрада. Аднак «Ніва» павінна паявіцца таксама ў самаўрадавых асяродках культуры, бібліятэках ды павятовых і гмінных установах на тэрыторыі населеной беларусамі, — сказаў рэдактар Яўген Вапа, якога фельетоны аб Гайнаўшчыне, а ў тым ліку і пра яго родны Доўгі Брод друкуюцца ў «Ніве».

Я сам жыву ў Гайнаўцы і на працягу звыш дваццаці гадоў працы ў нашым тыднёвіку многа пісаў аб Гайнаўскім павеце. Пра Гайнаўшчыну пішуць таксама іншыя нашы журналісты і карэспандэнты, між іншым Янка Целушэцкі з Ляўкова і Уладзімір Сідарук з Кузавы.

Званне «Заслужаны для Гайнаўскага павета» атрымаў мітрафорны протаіерэй Георгій Ацкевіч, настаяцель Праваслаўнага прыхода святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Гайнаўцы, які кіраваў будовай Дзмітрыеўскай царквы. Айцец Георгій Ацкевіч працаваў настаўнікам праваслаўнай рэлігіі ў Гайнаўскім белліцэі, хадайнічаў за выдзяленне ўчастка пад другі праваслаўны могільнік у Гайнаўцы, а пасля арганізаваў яго.

працяг ☞ 10





# Улада савецкая

Калі хто яшчэ не ведае, ці ўжо забыўся, то не пашкодзіць нагадаць, што ў Беларусі на гэтым тыдні пачынаецца галасаванне за кандыдацкія месцы ў мясцовыя саветы. На гэтым тыдні і заканчваецца. Зрэшты, усё ідзе і ўсё пройдзе без сюрпрызаў, спакойна, ціха, як і належыць у краінах з такой сістэмай улады як у нас. А вось што гэта за сістэма не кожны можа разабрацца. Назіраючы за цяперашнімі выбарамі ад самага пачатку самымі цікавымі развагамі на гэтую тэму для мяне сталі пакуль што выказванні аднаго сталага чалавека, які, чытаючы плакат з перадвыбарнай агітацыяй, задумліва прабубніў:

— Саветы, саветы... Зноў гэтыя саветы. А здаецца ж нядаўна казалі, што з саветамі ўжо ўсё. Развіталіся. Савецкая ўлада нібыта прайграла і сканала. Відаць, чарговы раз падманулі.

Я ажно рассмяяўся. Не вытрымаў. Загаварыў з ім. Тым больш што мужчына наўмысна бубнеў так, каб я пачуў. Відаць, сам быў не супраць падзяліцца думкамі на тэму бягучага палітычнага моманту ў Рэспубліцы Беларусь:

— А што, — пытаю, — вам незразумела? Адбываюцца выбары дэпутатаў мясцовых саветаў. Гэта такія людзі, якія нібыта вырашаюць мясцовыя праблемы. Таму на гэтым мясцовым роўні і ствараюць саветы.

— Вось я і думаю, — адказвае суразмоўца, — што калі выбіраем саветы, то ўлада тады савецкая. Гэта ж лагічна. Але ж савецкая ўлада нібыта ляснулася разам з Савецкім Саюзам. Вось я і разважаю ды гадаю: ляснулася яна, ці не ляснулася. Можа і Савецкі Саюз яшчэ існуе, — смяецца.

Даўно мне не было так весела. Вырашыў падыграць. А чаму не падуркаваць, як у дзяцінстве:

— А давайце ў людзей спытаем, — прапаноўваю. — Бо пытанне вельмі філасофскае. Таму думка грамадзян, якія дарэчы па сумяшчальніцтве з'яўляюцца яшчэ і патэнцыйнымі выбарцамі і чыста тэарэтычна выбіраюць гэтую ўладу, будзе напэўна цікавай.

Акурат ля выбарчага плаката спынілася старэнькая бабуся і стала яго вывучаць.

— Вось мы якраз пра выбары і спрачаемся, — звярнуліся мы да яе. — А галоўнае пытанне такое: ці існуе Савецкі Саюз, ці яго ўжо няма? І ці існуе ў нас па сённяшні дзень савецкая ўлада? Можа вы нам падкажаце?

На маё здзіўленне бабуся сур'ёзна задумалася над нашым пытаннем, хацела пайсці, нічога не адказаўшы, але пасля ўсё ж выдала:

— А скуль я магу ведаць. Вы ў каго маладзейшага спытайце.

Але маладзейшыя толькі ўсміхаліся і нічога не адказвалі.

— Хіба што не хочуць выглядаць дурнямі, таму вырашылі лепш нічога не гаварыць, — смяецца мой суразмоўца.

— Прыём такі ёсць, маўчаць, каб выглядаць разумным. І добра напэўна робяць, бо правільнага адказу на гэтае пытанне хіба што і няма ўвогуле. Ну, з Савецкім Саюзам то прасцей. Можна з нейкай ступенню верагоднасці сцвярджаць, што яго то ўжо няма. Хоць па вялікім рахунку і гэта не факт. Ну, а пра савецкую ўладу то хіба што правільнага адказу зусім не існуе. Ну, раз фармальна ў нас кіруюць саветы, то ўлада савецкая. А раз улада савецкая, то і савецкая краіна нікуды не дзелася. Але ж з савецкай сістэмай як бы ўжо пакончылі. Зноў жа фармальна. Ну, але тым не менш...

— Асабіста я бачу ў вашых словах логіку, — падтрымліваю далей дыялог са сваім новым знаёмым. — Сапраўды, хочацца ведаць дасканала, якую ўладу мы ўсё ж выбіраем. Хаця са словам „выбіраем" тут яўны перабор.

— А што, са словам „улада" перабору няма? — рагоча ён. — Хоць лепш за ўсё ў іх саміх спытаць. Задаць ім два гэтыя пытанні. Першае: ці лічаць яны сябе ўладай? Ну, а калі лічаць, то задаць другое: а якой уладай яны сябе лічаць, савецкай ці не? Ці якойсьці іншай. Калі так, то якой іншай? Ой, як цікава, што яны адкажуць.

Ой, як цікава! Сапраўды! У мяне зноў цікавасць да гэтых выбараў з'явілася. Ну, не да саміх, там усё ўжо для мяне зразумела. А вось да таго, кім новыя дэпутаты мясцовых саветаў самі сябе будуць лічыць. Савецкай уладай, ці якой іншай?

Зраблю ўсё, каб патрапіць на пасяджэнне і задаць гэтыя пытанні. Ну, трэба ж неяк і самому даведацца, і народных абраннікаў азадачыць. Вось хай сабе думаюць і раяцца між сабой. Як-ніяк — саветы.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Метафара?

Скрыжаванні, раздарожжы напаўняюць мяне першаснай трывогай. Як і штодзённы выбар. Любое рашэнне хавае ў сабе слізкага вужаку і ліпкага павука. І злавеснага пацука, і зморчны цень. Ці кожны чалавек мае такія фобіі? Гэта з іх бярэцца чалавечая схільнасць слухаць аўтарытэты. І не толькі іх, як людзей, якія з рэдкай упэўненасцю паказваюць пальцам у той, а не ў іншы бок. Невядома калі абстрактныя «бакі» ператвараюцца ў рэальныя дарогі. І не так лёгка завярнуцца з іх...

Мая прырода хутчэй баязлівая, і, дарэчы, я не веру, што яна калі-небудзь хацела б падняцца да гераічнасці. Як гэта ні парадаксальна, аднак, гераізм неад'емная частка майго паўсядзённага жыцця. Толькі што я не заўважаю яго ў сваіх маральных выбарах, якія патрабуюць простай, чалавечай мужнасці. Дарэчы, у пэўным сэнсе гэта ставіцца да ўсіх, нават самых маленькіх жыццёвых выбараў. Гэта звязана з тым простым фактам, што чым больш я аналізую ў розуме некаторыя важкія рашэнні, тым больш разумею складанасць прычыны і паслядоўнасці — усе гэтыя «за» і «супраць». Яны стаяць у асноўным у невыразальным балансе. У такой сітуацыі магчымае правільнае рашэнне? На самой справе, я іх разглядваю нават супраць сабе. Па мне няма тут ані трохі гераізму. Больш за тое, з усяе сілы ўхіляюся ад яго, таму што яго фонам з'яўляецца няўхільная смерць. На самой справе, гэтыя два значэнні спалучае знак роўнасці. Таму я адмаўляюся ад усякай думкі пра гераізм, каб скінуць цяжар смерці. Такім чынам, рашэнне, якое я раблю цяпер, вось у гэты момант, з'яўляецца працягам мінулых, больш-менш свядомых выбараў. А больш канкрэтна, спрактыкаваных раней і праверaных узораў прыняцця рашэнняў — рэдка нонканфарміцкіх.

Жыццё, як кажа мой беларускі сябар з яцвяжскім перакананнем, гэта не аўтамабіль, на якім можаце свабодна разварочваць, нават на бездарожжы. Гэта рэйкавы цягнік. На ім толькі едзеш, або спыняешся, прытым пад наглядам семафора. І заўсёды па маршруце, які нехта напісаў. Калі рухацца супраць яго, урэжашся. Сапраўды гэтак жа, калі адвольна спынішся. Тады катастрофа налятае на цябе. У абодвух выпадках гэта самаразбуральны акт.

Свабодны выбар па сутнасці заснаваны на безумоўнай празе жыцця. Канфармізм з'яўляецца яго галоўным саюзнікам. Адзінае, што мы можам зрабіць, умоўна, злёгку замарудзіць яго канфарміцкі імпульс або паскорыць яго з усведамленнем, аднак, што не пазбегнем сур'ёзных наступстваў за спазненне ці завялікую хуткасць прыезду на канчатковую станцыю.

Цікава, што ў адпаведнасці з фаталістычным раскладам, напісаным бліскучым пісьменнікам Францам Кафкам, гэтыя станцыі будуць паступова сціраца на дарожнай карце. Не ведаю чаму, але яны размешчаны менавіта там, дзе мы спыняемся. Абсалютнай упэўненасці, аднак, што дабраліся мы ў патрэбнае месца і час, мы ніколі не маем. Такім чынам, графік, па якім, як мяркуем, мы едзем, становіцца метафізічным планам. Незалежна ад таго, ці мы спыніліся ў патрэбным месцы ці не, нясем за гэта поўную адказнасць і балючыя наступствы. І яны непазбежныя.

... Але ці гэта так на самой справе? У пачатку лютага з'явіўся шырока каментаваны ў незалежных ад цяперашняй улады ліст, якога важныя ўрыўкі працытую: «[...] мы хацелі б выказаць глыбокую заклапочанасць у сувязі з хваляй агрэсіі, якая расце ў польскім грамадстве на нацыянальнай, расавай і рэлігійнай глебе. З краіны, якая можа пахваліцца доўгай і слаўнай традыцыяй свабоды і талерантнасці [...]». І далей: «Нашу асаблівую заклапочанасць і супраціў выклікаюць шматлікія і шумныя праявы антысемітызму, якіх мы сведкі ад таго, калі парламент прыняў папраўку да Закону аб ІНП. Гучаць там ганебныя, подлыя фармулёўкі, узятыя жыўцом з рэпертуару найгоршых шавіністаў. [...] «Мы, Польская Нацыя — усе грамадзяне Рэчы Паспалітай» — так значыцца ў Канстытуцыі нашай краіны. Такім чынам, ніхто не мае права адмовіць іншаму грамадзяніну, які належыць да нацыянальнай палітычнай супольнасці, незалежна ад расы, колеру скуры, этнічнай ці рэлігійнай прыналежнасці. Ніхто не мае права каго-небудзь выключыць з гэтай супольнасці. Мы заклікаем улады Польскай Рэспублікі, Прэзідэнта, Парламент і Урад да выканання гэтых асноватворных прынцыпаў і супрацьдзеяння ўсім формам ксенафобіі, нецярпімасці і антысемітызму». Ліст быў падпісаны прадстаўнікамі ўкраінцаў, караімаў, славакаў, кашубаў, літоўцаў, расіян, лэмкаў, татараў, якія жывуць у Польшчы. Подпісу прадстаўніка беларускай меншасці ў Польшчы няма.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Кліенты фінансавых магнатаў

Свет кружыцца і імчыць з такой хуткасцю і колькасцю інфармацыйных падзей, што адрозніваць важнае ад смецця становіцца штораз цяжэй. І гэта, здаецца, уся сутнасць той медыйнай аперацыі, мэта якой — звесці кожнага з нас да адчування інтэлектуальнай безабароннасці, а затым да лягчэйшай маніпуляцыі нашымі эмоцыямі. Як бачна па тым, што дзеецца вакол нас, менавіта поўнае кіраванне чалавечымі пачуццямі гэта тая мара, да якой імкнуцца хворыя на ўладу і грошы мацакі гэтага свету. Тады значна лягчэй выклікаць дэзінфармацыю, канфлікты, гаспадарчыя крызісы, ці маніпуляваць унутрыпалітычным жыццём краіны. Асаблівa гэта відавочнае ў час выбарчых кампаній на ўсіх узроўнях. Таму гэты і наступны год у польскіх рэаліях будзе весціся сапраўднае змаганне за палітычныя, каралеўскія прывілеі і кароны, а не толькі гістарычнае кіно часоў сярэдневечча ў нашых тэлевізарах. Па чарзе, рыхтуюцца нам гэтай восенню самаўрадавыя выбары, потым вясною наступнага года чакаюць нас гонкі ў Еўрапарламент, каб ізноў на восені 2019 года разыграць змаганне пра месцы ў польскім парламенце. Затым перад намі паўтара года рэальнага, павышанага і маніпуляванага ціску эмоцый у польскім грамадстве. Аж страх падумаць, колькі і якіх бочак з порахам мусяць зараз рыхтаваць на гэтыя тры войны варагуючых палітычныя лагеры польскай палітыкі. А кожная такая бочка мусіць выклікаць сапраўдны ўзрыў, які маюць заўважыць звычайныя выбаршчыкі і аднача́сна абліць граззю і смуродам сваіх сапернікаў. Так як калісьці, ідучы на вайну, адпаведна з тагачаснымі патрабаваннямі ў кожнай з армій рыхтавалася адпаведная спажыва і амуніцыя. Памятаем з легендарных пераказаў як, рыхтуючыся на Грунвальд на вайну з крыжакамі, кароль Ягайла і князь Вітаўт са сваімі дружынамі палявалі на звяроў ва ўсіх пушчах, таксама і ў нашай Белавежскай, каб потым саліць мяса ў бочкі дзеля лагістычнай бяспекі. Каралеўскі і княжы бюджэт мог дазволіць сабе на такія выдаткі. Хаця памятайма, што войны гэта каштоўная справа і калі абдзертыя падаткамі каралеўскія падданыя не забяспечвалі коштаў, то кіруючыя паталі па вушы ў даўгах. Хвароба ўладарання і перамагання проста бясцэнная. Якім і чым коштам — гэта для зямных уладароў не мае значэння.

Пішу з такім гістарычным адступленнем, каб усвядоміць яшчэ раз адну праўду: там, дзе палітыка, там і патрэбны грошы. Тры выбарчыя кампаніі для палітычных сіл, якія фінансуюцца з бюджэту дзяржавы, гэта той момант зараз, каб на доўгія гады вызначыцца ў Польшчы з роляй лідараў і прайграных. Для малых партый і грамадзянскіх рухаў не пад сілу спаборнічаць у так няроўным змаганні. Аднак амбіцыі і мэта быць адзінымі, кіруючымі прымушае палітыкаў шукаць грошай у тых, хто іх мае. Бедныя, грамадскія дзеячы і іх структуры разлічваюць на сто ці дзвесце злотых сваіх сяброў ці суседзяў. Вялікія сябруюць з вялікім бізнесам. Фінансавыя магнаты і палітычныя мецэнаты добра разумеюць, што час выбараў гэта таксама момант для іхняй паспяховасці, каб падаць дзяржаву дзеля сваіх цяперашніх і будучых інтарэсаў. І тут раптам палітычныя афарбоўкі ці сімпатыі зыходзяць з поля зроку палітыкаў і багацеяў, бо яны на сябе асуджаны ў такой палітычна-фінансавай сістэме дзяржавы. Як паказваюць успаміны ці пратаколы допытаў тых, што праляцелі на сутыку інтарэсаў бізнесу і палітыкі, дасведчаныя ў палітычнай эканоміі плацілі кожнаму ад левых да правых, паколькі вядома мець страхоўку з кожнага боку. Так справы маюцца на вяршыні агульнакраёвых ці ваяводскіх дамоваў. Бо з другога боку, хто глядзеў польскі кінафільм „Układ zamknięty", мог пабачыць як могуць задзейнічаць жорны дзяржавы і яе інструменты ў дачыненні да непаслухмяных. У апошнім часе шмат такіх рэальных гісторый стала агульнавядомымі. Падобныя справы і не чужыя на нашым падляшскім панадворку. У нас гэта яшчэ цікавей. У сувязі з недахопам грошай у мясцовых палітыкаў, усе яны, пачаўшы найперш ад самаўрадаўцаў, а на партыйных дзеячах скончыўшы, сталі заложнікамі і кліентамі магнатаў-бізнесоўцаў. Дзе не глянь, усё відаць. А будзе яшчэ лепей, бо ж выбары перад намі.

**Яўген ВАПА**

**Штодзень рэалізуюцца і развіваюць свае зацікаўленні, сочаць за тэмамі, якія прыносяць ім нешта больш чым матэрыяльнае задавальненне. Менавіта такіх творцаў выбралі і дацанілі, каб іхняя праца ўзбагачала і паўплывала на тых, які будуць з ёю сутыкацца.**



# Стыпендыі творцам і стваральнікам культуры



### Багацце ў разнастайнасці

Шаснаццаць творцаў з Падляшша атрымалі стыпендыі маршалка Падляшскага ваяводства.

У Беластоцкім гістарычным музеі адбылася ўрачыстасць уручэння стыпендый маршалка ў галіне мастацкай творчасці, распаўсюду культуры і аховы помнікаў культуры на 2018 год.

— Гэта людзі з розных галін культуры: ёсць і гісторыкі, акцёры, літаратары, — адзначыў дырэктар дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Анатоль Вап. — Дзякуючы стыпендыі будуць яны маглі працаваць больш спакойна, не клапоціцца пра матэрыяльныя сродкі. А вынікаў, вядома, чакаем, заўсёды з цікавасцю прыглядаемся рэзультатам працы.

Заявак на атрыманне стыпендыі наплыло многа, што можа сведчыць пра тое, што Падляшша сапраўды, калі гаварыць пра культуру, багаты рэгіён. Камісія пад кіраўніцтвам першага маршалка Падляшскага ваяводства Славаміра Згжывы выбрала 16 стыпендыятаў.

— У камісіі няма аніводнага прадстаўніка Маршалкоўскай управы. Гэта толькі людзі культуры, якія не працуюць ва ўстановах, — адзначыў дырэктар дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Анатоль Вап. — Вось яны і прызначаюць стыпендыі сваім калегам. Управа ваяводства вельмі шануе іх рашэнне і рэдка калі бываюць нейкія змены.

### Дзякуючы такім людзям, мы становімся прыгажэйшымі

У чацвер 8 лютага ў Гістарычным музеі ў Беластоку адбылася ўрачыстасць «Падляшскія таленты для Незалежнай», у час якой узнагароджаныя творцы атрымалі з рук маршалка Ежы Ляшчынскага і віцэ-маршалка Мацея Жыўны стыпендыяльныя дыпломы.

— Гэта важны дзень для самаўрада, для людзей, якія займаюцца культурай, — адзначыў маршалак Ежы Ляшчынскі. — Традыцыйна ўжо хочам адзначыць, а перш за ўсё падтрымаць працу тых, якія ствараюць. Дзякуючы такім асобам культура ў нашым ваяводстве развіваецца. Менавіта дзякуючы такім людзям мы становімся прыгажэйшымі, мудрэйшымі.

У гэтым годзе было прызначаных 8 паўгадовых стыпендый па 6 тысяч злотых кожная і 8 гадавых — па 8 тысяч злотых.

— Творцы, якія займаюцца некамерцыйнымі рэчамі, не поп-культурнымі, патрабуюць падтрымкі, — сказаў Мацей Жыўна. — Думаю, што калі даем стыпендыю, якая мае эластычны характар, стыпендыю, якая дае магчымасць рэалізацыі канкрэтнай задачы, даем адначасова магчымасць палягчэння працэсу рэалізацыі задумы артыста. Наш досвед на працягу ўсіх апошніх гадоў даказвае, што гэта геніяльная дарога, падтрымкі развіцця артыстаў у нашым рэгіёне.

### Беларуска-польскія праекты

Сярод стыпендыятаў апынуліся і дзве польскія беларускі: Ганна Кандрацюк-Свярубская атрымала стыпендыю на напісанне цыкла рэпартажаў, прысвечаных гісторыі і лёсам людзей, што жывуць у Белавежскай пушчы па абодвух баках мяжы. Анэта Прымака-Онішк атрымала стыпендыю на даследаванне па тэме „Ад бежанства да абмену насельніцтвам. Далейшыя лёсы бежанцаў 1915 года”.

— Стыпендыя дае такі рэальны падмурак, падмацаванне, але я хачу сказаць таксама, што яна дае штуршок для аўтара, каб працягнуць, як у маім выпадку, пэўныя тэмы, — адзначыла журналістка Ганна Кандрацюк.

Тэмай мяжы будзе таксама займацца малады мастак Павал Матышэўскі, які хоча рэалізаваць мультымедыйны праект супольна з вядомым беларускім мастаком Сяргеем Шабохіным. Вядучай тэмай іхняй працы будзе паказанне польска-беларускага пагранічча. Паўсталыя працы будуць паказваць на выстаўках у Польшчы і Беларусі.

Таксама музыкай можна ахопліваць пагранічча. Доказам на гэта з’яўляецца акардэаніст, музыка Міраслаў Цясноўскі. Ад 20 гадоў грае ён польскія і беларускія абрадныя і будзённыя песні. Міраслава можна сустрэць на сцэнах у час фальклорных мерапрыемстваў — тых гмінных, як і раённых ці ваяводскіх. Стыпендыя дапаможа яму зрэалізаваць праект на выданне кампактдыска з песнямі з Гайнаўкі і ваколіц.

### Каб захаваць ад забыцця

Некамерцыйным заняткам напэўна можна назваць двухасноўнае ткацтва, якое захавалася на Сакольшчыне ў гміне Карыцін. Тут па сёння актыўна працуюць ткачыхі, якіх дываны можна лічыць высокім мастацтвам. Адной з іх з’яўляецца сёлетняя стыпендыятка Бернарда Росць, якая гадавую стыпендыю атрымала на праект «Карыцін у двухасноўнай тканіне» і цыкл майстар-класаў па двухасноўным ткацтве для дзяцей і моладзі пад загалоўкам «Захаваць ад забыцця двухаснуўную тканіну».

— Я ўзрушаная і шчаслівая, што атрымала стыпендыю. Сорак пяць гадоў маёй працы заўважылі, — адзначыла Бернарда Росць. — Па-сур’ёзнаму я пачала займацца ткацтвам з 1989 года. Тады ўдалося мне атрымаць узнагароду імя Станіслава Выспянскага. Таксама ў 2013 годзе я атрымала ўзнагароду Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны ў Варшаве. Усё-такі мне трэба сказаць, што на Падляшшы першы раз мяне ўзнагародзілі за шматгадовую працу.

Стыпендыя для некаторых узнагароджаных гэта вялікая падтрымка. Для Гражыны Волкавай дапаможа весці архіў свайго светлай памяці мужа. За мэту Гражына Волкава ставіць сабе апісанне негатываў, каб можна было іх упісаць у інвентар Падляшскага музея, дзе мае апынуцца архіў фатографа.

— Для мяне стыпендыя зараз гэта справа быту, — адзначыла Гражына Волкава. — Мне проста за гэтыя грошы цягам года трэба ўтрымаць Дом-Музей Віктара Волкава ў Супраслі. Тут знаходзіцца цэлая спадчына фотамастака. У гэтым доме я парадкую спадчыну па мужу. Трэба пра гэта клапаціцца, я гэта раблю і гэта таксама праца. Цяжкая праца таму, што нясе за сабою ўспаміны.

### Не толькі для рэгіёна

На думку арганізатараў стыпендыяльнай праграмы тыя, якіх узнагароджваюць, папулярызуюць рэгіён і самі становяцца больш вядомымі па-за яго межамі.

— Дзякуючы стыпендыі артысты маюць магчымасць развівацца, праяўляць сябе ў нейкай новай сферы, паказваць новыя творы, — адзначыў віцэ-маршалак Мацей Жыўна. — Вельмі часта проста яны становяцца відочнымі для іншых. На спіску нашых стыпендыятаў ёсць такія, якія поспехам і славай карыстаюцца не толькі ў нашым рэгіёне.

Часта стыпендыяты сваёй шматгадовай працай ужо самі спрычыніліся да гэтага, што іх прозвішчы вядомыя таксама за межамі не толькі рэгіёна, але і дзяржавы.

— Стыпендыя перш за ўсё важная для аўтара, які будзе мець магчымасць паехаць за мяжу, каб рэалізаваць тэмы, — дадала Ганна Кандрацюк. — Рэпартаж, як ведаем, гэта такая галіна журналістыкі, якая патрабуе быць дзесьці ў канкрэтным месцы, спыніцца, мець час на размовы, на думкі, каб дакрануцца да гэтага сваёй перцэпцыяй і нагамі. Я вяртаюся з Палесся тут на Падляшша да Белавежскай пушчы, з чаго вельмі цешуся, таму што мая тоеснасць вырастае з духовай культуры, якая нараджалася вакол вялікага лесу.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

# V месца

*Размова са старастам Гайнаўскага павета **Міраславам Раманюком.***



# Гайнаўскага павета ў рэйтынгу Саюза польскіх паветаў

**— Нядаўна былі апублікаваны новыя вынікі рэйтынгу Саюза польскіх паветаў і ў катэгорыі паветаў да 60 тысяч жыхароў Гайнаўскі павет заняў высокае пятае месца ў Польшчы.**

— Наш павет у Агульнапольскім рэйтынгу паветаў і гмін займаў добрыя месцы таксама раней, але пятае месца гэта найлепшы вынік у згаданым рэйтынгу. На вынік паўплывалі інвестыцыі, перш за ўсё праэкалгічныя і інвестыцыі, якія даюць ашчаднасць энергіі. Добраму выніку пасадзейнічала павышэнне якасці лячэння жыхароў у павятовым шпіталі, якім паспяхова ўпраўляе дырэктар Рыгор Тамашук. З выкарыстаннем вонкавых і з'эканомленых сродкаў у шпіталі была праведзена мадэрнізацыя большасці шпітальных аддзяленняў. Цяпер адбудзецца мадэрнізацыя чарговых трох аддзяленняў: інтэнсіўнай тэрапіі, выратавальнага і аперацыйнага, кошт якой складзе 16,5 мільёна злотых. У рэйтынгу важнымі былі таксама сацыяльная дапамога, увядзенне новых інфармацыйных тэхналогій і супрацоўніцтва на розных узроўнях. За апошнія гады мы многа сродкаў расходавалі на інвестыцыі ў павеце, якія ўспамагаліся вонкавымі сродкамі. Каля 4 мільёнаў злотых мы ў гэтым тэрміне паўнамоцтваў выдаткавалі на пагашэнне доўгу нашага павета. Мы рады гэтаму поспеху ў рэйтынгу, але перш за ўсё глядзім у будучыню, бо ў нашым павеце многа чаго трэба зрабіць.

**— А калі адбудзецца тэрмамадэрнізацыя будынка Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы?**

— Ужо хутка пачнуцца працы па поўнай тэрмамадэрнізацыі будынка Комплексу школ, на якія плануем выдаткаваць звыш 1 мільёна 800 тысяч злотых вонкавых і ўласных сродкаў. Будуць уцеплены сцены і дах будынка. Мы мадэрнізавалі таксама будынак Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка ў Гайнаўцы. Наш павет пачынае таксама рэалізаваць мяккі праект «Бежанства — гісторыя звычайных людзей», які падтрымліваецца сродкамі Еўрапейскай камісіі. Школьная моладзь будзе працаваць над тэмай бежанства 1915 года ў рамках конкурсу «Пазнаёмся з гісторыяй свайго рэгіёна — Бежанства». Будзе рыхтавацца выстава «Бежанства» на польскай і нямецкай мовах. Прадбачваем іншыя папулярызатарскія дзеянні, каб бежанства стагадовай даўнасці прыблізіць жыхарам павета і нават людзям за мяжой нашай дзяржавы. У рамках праекта прадбачваецца міжнародная дыскусія аб бежанстве ў ХХ стагоддзі і сучасным бежанстве — міграцыі ў Еўропу. Прадугледжваецца дыскусія аб прычынах масавага бежанства ў мінулым і апошнім часам, аб адносінах людзей да бежанства сто гадоў таму і цяпер.

**— У 2016 годзе памянялася ўправа Гайнаўскага павета і ад старой управы засталіся толькі вы. Запрапанавалі вы да працы ў новай управе чатыры новыя асобы, якія былі выбраныя большасцю радных. Прадстаўнікі якіх выбарчых камітэтаў уваходзяць цяпер ва ўправу Гайнаўскага павета?**

— Хаця я на гэты тэрмін быў выбраны радным са спіска Выбарчага камітэта ПСЛ, то ніколі не быў членам сялянскай партыі. Запрапанаваў я іншы склад управы павета, калі радныя ад ПСЛ выступілі з прапановай адклікаць мяне з пасады старасты Гайнаўскага павета. Павятовыя радныя выбралі новы склад управы павета, у якім я лічуся незалежным радным, віцэ-староста Ядвіга Дамброўская была выбрана раднай ад Выбарчага камітэта Грамадзянскай платформы РП, а трох іншых радных управы — Вольга Рыгаровіч, Барбара Васілюк і Ян Адамчук — былі выбраны са спіска Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля».

**— Ужо восенню гэтага года маюць адбыцца самаўрадавыя выбары. Ці ў Гайнаўскім павеце будзе створаны беларускі выбарчы камітэт?**

— Яшчэ невядома, якія выбарчыя камітэты будуць дзейнічаць у Гайнаўскім павеце перад сёлетнімі самаўрадавымі выбарамі.

**— Працягваюцца дыскусіі наконт спосабаў аховы Белавежскай пушчы. Ці самаўрады рэгіёна Белавежскай пушчы выпрацавалі супольную пазіцыю ў гэтай справе?**

— Самаўрады рэгіёна Белавежскай пушчы дагэтуль падтрымлівалі рашэнні Гайнаўскага, Белавежскага і Броўскага надлясніцтваў у справе гаспадарання ў Белавежскай пушчы і яе аховы.

**— Ці новы міністр асяроддзя Генрык Кавальчык прадставіў новыя прапановы ў справе аховы Белавежскай пушчы і магчымасці высечкі драўніны ў ёй?**

— Хутка ў Белавежы адбудзецца сустрэча міністра Кавальчыка з прадстаўнікамі нашых самаўрадаў, няўрадавых арганізацый і жыхарамі рэгіёна Белавежскай пушчы. Нам цікава даведацца, ці новы міністр прадугледжвае нейкія новыя дзеянні ў справе Белавежскай пушчы і ці прадбачае ўводзіць нейкія змены ў цяперашнюю палітыку гаспадарання ў Белавежскай пушчы і яе аховы. Хачу аднак сказаць, што Гайнаўскаму павету на рэалізацыю праекта «Пушча і людзі», з якім мы выходзім да мясцовага насельніцтва, прызначылі сродкі з Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі. У рамках праекта, які накіраваны да вучняў і дарослага насельніцтва нашага павета, прадугледжваецца абмен вопытам і ведамі паміж установамі і арганізацыямі, якія займаюцца аховай прыроды, дыскусіі і дзеянні наконт ураўнаважанага развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы. Ужо адбыўся конкурс "Актыўная ці пасіўная ахова Белавежскай пушчы», у выніку якога вучні звышгімназічных школ падрыхтавалі цікавыя фільмы аб пушчы.

**— У 2015 годзе была апрацавана «Праграма развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы», якую не паспеў зацвердзіць папярэдні кааліцыйны ўрад ГП-ПСЛ. У рамках яе прадбачвалася выдаткаваць на тэрыторыі Гайнаўскага павета вельмі вялікія сродкі.**

— Між іншым у гэтай праграме запланаваны былі сродкі на перабудову ваяводскіх дарог паміж мясцовасцямі Навасады — Заблудаў і Звадзецкае — Юшкаў Груд. На вялікі жаль праграма не была зацверджана і новым урадам. Аднак перабудова ваяводскай дарогі з Навасадаў у Заблудаў на адрэзку з Жыўкова ў Заблудаў вядзецца ў рамках Аператыўнай праграмы Усходняя Польшча. Канешне, гэтай перабудовай кіруе Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства. Зараз у Маршалкоўскай управе вядуцца кансультацыі наконт выканаўцаў, які былі вылучаны да перабудовы гэтай самай дарогі на адрэзку з Навасадаў у Жыўкова, на што ў галоўным будуць выдаткоўвацца сродкі з Рэгіянальнай аператыўнай праграмы Падляшскага ваяводства. Магчыма, што прапанова суполкі, якая выйграла аўкцыён, будзе адкінута Маршалкоўскай управай з-за вялікай цаны, якую запрапанавала гэтая суполка за грунтоўную перабудову дарогі з Навасадаў у Жыўкова. Тады быў бы абвешчаны новы аўкцыён на вылучэнне новага выканаўцы, які за меншыя грошы рашыўся б перабудаваць дарогу з Навасадаў у Жыўкова. Прадугледжваецца таксама абвяшчэнне ў хуткім часе аўкцыёну на перабудову ваяводскай дарогі са Звадзецкага ў Юшкаў Груд, у галоўным са сродкаў Рэгіянальнай аператыўнай праграмы Падляшскага ваяводства. Паявілася таксама магчымасць мадэрнізаваць чыгуначны пуць з Гайнаўкі ў Белавежу, які ёсць ужо ўласнасцю Гайнаўскага павета, перш за ўсё з выкарыстаннем сродкаў Рэгіянальнай аператыўнай праграмы Падляшскага ваяводства. Зараз ідзе перабудова перагрузачнага тэрмінала ў Хрызанове, непадалёк ад Нараўкі. Будзе завяршацца мадэрнізацыя чыгуначнага пуці з Чаромхі ў Бельск-Падляшскі, які часткова пралягае праз Гайнаўскі павет. У 2018 і 2019 гадах прадугледжваецца перабудова чыгуначнага пуці з Гайнаўкі ў напрамку Бельска-Падляшскага, у Леўкі. Стаянка каля Звярынца, побач ваяводскай дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу, з'яўляецца павятовай уласнасцю і мы прадугледжваем збудаваць на ёй Цэнтр турыстычнай інфармацыі.

**— У «Праграме развіцця рэгіёна Белавежскай пушчы» запланаваныя былі сродкі таксама на перабудову павятовых дарог на Гайнаўшчыне.**

— Мы прыцягваем іншыя вонкавыя сродкі на мадэрнізацыю павятовых дарог. У выпадку дарожных інвестыцый з бюджэтаў гмін даплачваецца столькі ж сродкаў на мадэрнізаванне павятовых дарог, што мы выдаткоўваем на гэтая інвестыцыі з павятовага бюджэту, а да гэтага дакладваюцца яшчэ вонкавыя сродкі, што ў Гайнаўскім і іншых паветах робіцца здаўна. Таму мы маглі мадэрнізаваць больш нашых дарог. Толькі ў 2017 годзе мы зрэалізавалі 5 інвестыцый на павятовых дарогах на суму амаль 3 мільёны злотых. Карыстаючыся фінансавай падтрымкай Дзяржаўных лясоў і паасобных гмін мы перабудавалі павятовыя дарогі з Вітава ў Доўгі Брод, са Старыны ў Горны Груд і вуліцу Боцькаўскую ў Кляшчэлях. У паразуменні з Чыжоўскай гмінай мы правялі рамонтныя работы на двух адрэзках павятовых дарог у гэтай гміне.

**— Ці карыстаецеся козырам, што Гайнаўскі павет распалажаны непасрэдна каля мяжы з Рэспублікай Беларусь?**

— У Гайнаўскім павеце дзейнічаюць тры пагранпераходы — каля Палаўцаў, Семяноўкі і Белавежы і гэта козыр нашага павета. Апошнім часам пабольшаў аўтадарожны рух на пагранпераходзе каля Палаўцаў і чыгуначны рух на фітасанітарным пагранпераходзе каля Семяноўкі. Турысты і нашы жыхары без віз могуць пяшком і на веласіпедах наведваць Белавежскую пушчу з другога боку мяжы праз пагранпераход каля Белавежы. Зараз жыхары Гайнаўскага павета чакаюць магчымасці паездкі ў Свіслацкі, Пружанскі і Камянецкі раёны без віз, так як зараз можна выязджаць у Гродна, што прадвяшчаюць улады Беларусі. Гэта не дзейнічала б яшчэ ў другі бок, хаця вядзецца супрацоўніцтва паміж нашым паветам і паасобнымі гмінамі Гайнаўшчыны з Пружанскім, Камянецкім і Свіслацкім раёнамі ў Рэспубліцы Беларусь у галіне культуры, адукацыі і гаспадарчага развіцця.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў
**Аляксей МАРОЗ**




# На хвалі прадчування

— Апошні тыдзень усё такое жахлівае і балючае снілася. Думала, па мяне *яна* ідзе...

Тацяна, сівавалосая ўжо прабабуля, абачліва не вымаўляе слоўца „смерць". Баіцца наклікаць яе на белы свет. А сваім снам яна давярае больш чым лекарам і тэлевізару.

Жанчыны сядзяць над адкрытай дамавінкай Нюты, абстаўленай кветкамі і пластмасавымі вянкамі. Твар у нябожчыцы ясны, задаволены. *Слава Богу за ўсё!* Усё здзейснілася. Ніхто не плача, не галосіць...

— Яна нікога не скрыўдзіла ў жыцці, — шэпчуцца па баках галасы, — таму памерла ў міры, з усмешкай на твары...

Ля раскрытай дамавіны новапрадстаўленай тры пеўчыя шурпатымі галасамі цягнуць замагільны напеў: *На всех сонца светіт, на меня уж нет...* Калі наступае прыпеў *Святы Божа, святы крэпкі*, радня размашыста жагнаецца.

Тацяна, малодшая сястра Нюты, акружаная дочкамі, на сцішанай ноце апавядае свой апошні сон.

— *Яно* паказвала ўжо раней, — робіць агаворку ў часе сеніёрка. — На свята мы з бабамі пайшлі калядаваць па царкву. Прыйшлі да Нюты, сталі ў парозе і стаім як стаўпы. Забыліся, запуталіся, усе калядкі з галавы выветрыла. Пасядзелі крышачку, аддыхаліся і зноў узяліся за *Рожджэство Хрыстовэ*. А ў нас галасы, як гарох аб сцяну, рассыпаліся. На душы стала маркотна, непрыемна. Нюта дала дзесяць злотых, пачаставала віном ды і сама з намі чарку перакуліла. А мы пайшлі далей...

І нармальна калядавалі... Спяшаліся, каб як найбольш дамоў абысці... У спеху не прыкмецілі, што прамовіў знак, што ўжо не за гарамі *тая з касою*.

— Ну! — падтаквае Маня, дачка Тані, элегантная беластачанка. — Праз спевы шмат чаго можна прадчуць. Учора са мной такое дзіва тварылася. Бягу раніцай на працу, а на душы *Нагробнае рыданне...* гудзіць як пчаліны рой. Ніяк адагнаць нельга. Бягу і думаю: „Ну, хтосьто ўжо памрэ". Пакуль я на працу прыбегла, ажно ўпацела, ціск падскочыў. Села за стол і тупа гляджу ў камп'ютар. Дзесьці разбегліся думкі, зморчна на душы. Дзве гадзіны пазней — званок ад Валі. „Цёця Нюта памерла", — заяўляе...

— А мне прысніўся такі сон, — уключаецца да размовы другая дачка Тацяны, Валя. — Прыехала я да Цецяроўкі, да дзеда. (Яго дом даўно раскінуты, сяліба зарасла бярэзінай). А мне сніцца што ў хаце дзеда выбіты вокны. Я зазірнула праз акно і ажно жахнулася. На падлозе валяліся кучы бруднай вопраткі. А мне трэба было ўлезці праз акно і прыбраць хату. „Як жа я спраўлюся з гэтым брудам", — падумала, ажно цела пачало шэрхнуць.

Расказ Валі спыняе на момант святло ў яе смартфоне... Жанчына зазірае на фейсбук і нешта піша, ставіць падабайкі і смяецца да экрана. У экране б'е гадзіннік, які спалоханая Валя абачліва выключае. Памятае, што калісь пры нябожчыку спынялі гадзіннік і завешвалі люстры. Маці і сястра чакаюць, які будзе працяг яе сну...

— Я тады прачнулася, — жанчына зноў зазірае на фейсбук, піша паведамленні і адначасова завяршае расказ. — Кажуць, калі насніцца прыбіранне, або як мыеш запэцканую падлогу — гэта на смерць...

Жанчыны спыняюць на момант шэпат, кожна з іх у цішы абмяркоўвае пачутае...

— А мне прыдалося такое дзіва, — бярэ голас сеніёрка Тацяна. — Раптам, не вядома адкуль, наляцеў на мой дом буралом. Раздаўся такі грукат, быццам фронт *з кацюшамі* праз хату праходзіў. Я падарвалася з пасцелі і бягу на кухню. Не, там усё нармальна. Зазірнула ў лазеньку — там таксама парадак. У сенях усё на месцы, як раней, стаіць. То я выбегла на двор і бачу, наш стары хлеў, што прыбудаваны да хаты, развалíўся... Прачнулася і... чую грукат на сяле. А то якраз верталёт прыляцеў ужо па Нюту. Дачка выклікала хуткую, а яны прыехалі і паклікалі дапамогу з Беластока.

Нюта памерла праз тры дні ў беластоцкім шпіталі-*гіганце* на 98 годзе жыцця. Пахавалі яе побач шлюбнага Колі, які пайшоў з жыцця трыццаць тры гады таму...

У апошнія гадзіны даглядала яе дачка, якая тры дні да інсульту прыляцела з Англіі. Ала, калі ўспамінае свае сны і прадчуванні, пачынае плакаць. Яе роспач і слёзы гэта адначасова гора і ўдзячнасць вышэйшым сілам, што наказалі ёй пра здарэнне:

— Не паверыце, — сцішае голас статная пенсіянерка-англічанка, — з суботы на нядзелю прысніўся мне сон. Прыляцелі на самалёце да нас мамка і татка, абое маладыя, зайшлі ў хату, запрашаюць на сваё вяселле. А я замест цешыцца — плачу. Дакранулася да рота, а там кроў і зубы выкрышыліся. То я адразу купіла білет, села на самалёт і прыляцела да мамы. Ведала, пад якое *вяселле* трэба рыхтавацца.

Сеніёрка Тацяна і яе гарадскія дочкі са смартфонамі ківаюць галовамі ў знак разумення. А новапрадстаўленая Нюта ляжыць у кветках і быццам усміхаецца ім у адказ. Праз ціш прарываецца гул лядоўні і набожныя напевы пеўчых: *Святы Божэ, святы крэпкі, святы бяссмертны, памілуй нас!*

**Ева СЦЕПАНЮК**

# Лявон Тарасэвіч
## атрымаў чарговую ўзнагароду



Мастак Лявон Тарасэвіч уганараваны прэміяй прафесара Аляксандра Гейштара за „Свядомую і шматгадовую дзейнасць на карысць наладжвання паразумення паміж рознымі этнічнымі, моўнымі і рэлігійнымі групамі польска-беларуска-літоўскага памежжа, ладзячы «Трыялогі» ў Крынках на Падляшшы". Вечарам 8 лютага ў Каралеўскім замку ў Варшаве пра Лявона Тарасэвіча, як дзеяча адданага беларускай культуры і вядомага мастака, гаварылі найважнейшыя польскія палітыкі і інтэлектуалы, сярод якіх гісторык мастацтва Анда Ротэнберг:

— Я ведаю Лявона Тарасэвіча 35 гадоў, а можа і больш. Ад пачатку знаёмства ён заражаў мяне сваёй беларускай культурай, таму для мяне яна вельмі важная. Я не ведаю ці Мазоўша настолькі цікавае ў культурным плане, як Падляшша.

— Прэмія імя Гейштара — адна з тых, якой галоўным чынам адзначаюцца тыя, хто захоўвае нацыянальную спадчыну ў Польшчы, — кажа старшыня Фонду Кроненберга Кшыштаф Качмар. — Праца, дзейнасць, высілкі нашага сёлетняга лаўрэата Лявона Тарасэвіча былі вельмі высока ацэненыя, найвышэй з усіх кандыдатаў, якія ў нас былі. Былі адзначаны яго высілкі ў пабудове ўзаемапаразумення, міжкультурнага і міжнароднага паразумення. Яго фестываль у Крынках, які ладзіцца, з'яўляецца месцам, у якім вядзецца міжкультурны дыялог. Гэты лаўрэат вельмі ўзбагачае партфоліа нашых кандыдатаў з мінулых гадоў.

Прэмія імя прафесара Гейштара назначаецца Фондам Кроненберга з 1999 года. Сярод лаўрэатаў прэміі, сярод іншых, Альжбета і Кшыштаф Пэндэрэцкія, Анджэй Вайда і Норман Дэвіс.

**Валянціна ЛАЕЎСКАЯ**
Радыё Рацыя

# У Ляўкове адкрылі клуб сеніёра

9 лютага гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбылося ўрачыстае адкрыццё клуба сеніёра. Рамонт памяшкання звонку і ўнутры, новае электраасвятленне, пад'езды на ўсходы для інвалідаў на калясках і абсталяванне неабходняй мэбляй каштавалі 200 тысяч злотых з дзяржаўнай і з гміннай касы. Прасторнае прыгожае памяшканне са сцэнай асвяцілі настаяцелі Стараляўкоўскага праваслаўнага прыхода і Нараўчанскай каталіцкай парафіі. Урачыстасць адрыў і прывітаў гасцей, а ў іх ліку дырэктара мясцовай керамічнай фабрыкі, духоўныя асобы, гмінных радных, мастацкі калектыў „Цаглінкі" і сеніёраў з Новага і Старога Ляўкова войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч.

З канцэртам выступілі стараляўкоўскія „Цаглінкі" пад кірункам Мікалая Мяжэннага ў сваіх прыгожых „васількових" (маюць яны блакітны васільковы колер) касцюмах. Спявалі яны менш і больш вядомыя мілагучныя беларускія песні, у тым ліку на словы Мікалая Варанецкага (настаўніка пенсіянера з паэтычнай душой) з Альхоўкі, між іншым, „Семяноўскую чайку" і іншыя. Былі песні, спяваючы якіх танчылі. Панавала цёплая, мілая і сардэчная атмасфера.

І так, клуб сеніёра ў Ляўкове стаўся фактам. Будзе ён працаваць паводле праграмы, якую рыхтуюць Галена-Марыёля Рэент — дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы і Крыстына Паскробка — інструктарка вясковай святліцы ў Старым Ляўкове. Такі клуб — першы ў Нараўчанскай гміне. Арганізавалі яго з думкай пра пажылых жыхароў вёсак (іх тут нямала), між іншым, каб мелі дзе сустракацца ды прыемна і цікава праводзіць свой вольны час пры гарбатцы і каве. Будуць сустрэчы з людзьмі цікавых прафесій. У клубе ёсць варцабы (шашкі) і шахматы. Будуць заняткі разьбы ў гліне пад кірункам інструктаркі Вольгі Максімюк з Новага Ляўкова. Ёсць кухня і будуць курсы гатавання і пячэння (як вядома, „рассыпаліся" гурткі вясковых гаспадынь — КГВ) і такіх курсаў даўно не было.

# Справа для солтыса

Не ва ўсіх вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ноччу відно на вуліцы, бо не свецяць усе электралямпачкі вулічнага асвятлення. Не ўсе солтысы і радныя паведамілі войту гміны пра перагарэлыя электралямпачкі ў той ці іншай вёсцы.

І так, у Новым Ляўкове ў канцы студзеня гэтага года завінцілі новыя электралямпачкі. Не паклапаціліся пра гэта, між іншым, у суседняй вёсцы — у Плянце. Тут то бліснe, то хутка згасне лямпачка на слупе на павароце ваяводскай дарогі № 685 на яе адрэзку з Плянты ў Новае Ляўкова.

Тут вышэйзгаданыя „дыскатэкавыя праблíскі" пачаліся і цягнуцца ад пачатку мінулагодняй восені. Мабыць, солтыс пра гэта не ведае, а ўжо радная, якая жыве ў далёкай другой частцы вёскі Плянта, сюды ніколі не наведваецца. Ды і жыхарам блізкіх хат пры дарозе справа гэтая, як кажуць, хоць бы дзічкі. Варта дадаць, што два гады таму позняй восенню пад вечар на гэтым павароце легкавы аўтамабіль ударыў і забіў чалавека.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Мой герой — беларус!

## Конкурс на 100-годдзе БНР

Дарагія сябры! Набліжаецца 25 Сакавіка — Свята Волі, дзень, які адзначаюць тысячы беларусаў у цэлым свеце. У нас, на Падляшшы ўкаранілася традыцыя святкавання. Пра свята гаворым на ўроках беларускай мовы і на школьных лінейках, у сям'і і на мастацкіх мерапрыемствах.

Каб годна і творча адзначыць сотую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, мы прыдумалі для вас святочны конкурс. Вашай задачай будзе напісаць твор на тэму:

**МОЙ ГЕРОЙ — БЕЛАРУС!**

Падумаеце — хто такі можа стаць вашым героем?

Перад вамі шырокі выбар і неабмежаваныя магчымасці:

— вашым героем можа стаць тата, брат, мама, сястра, дзед, цёця, бабуля ці іншы сваяк або любы знаёмы...

— настаўнік, мастацкі інструктар, апякун праекта...

— гістарычны персанаж, пісьменнік, грамадскі дзеяч, журналіст, мастак...

— ваш любімы літаратурны герой...

— ваш сябра або сімпатыя...

Конкурсныя працы можаце напісаць у форме верша, апавядання або журналісцкіх жанраў — рэпартажа, фельетона, эсэ, інтэрв'ю.

Працы будуць ацэнены адмысловай камісіяй, якая назначыць супер-файныя ўзнагароды — веласіпед, беларускія кніжкі і CD з беларускай музыкай, запрашэнне на журналісцка-мастацкія майстар-класы Сустрэчы «Зоркі».

Конкурсныя працы дасылайце да 1 мая 2018 года.

Конкурс прадбачаны для вучняў пачатковых школ і гімназій. Не адкладвайце задачу, пачніце думаць, рыхтавацца і пісаць ужо сёння.

**Ганна Кандрацюк**




Беластоцкія гімназісткі з Пагонямі

## Зіма злуецца

Люты — капрызны месяц, невядома, калі якое будзе надвор'е. Бывае пагодны адзін-другі дзянёк: днём сонечна, капае са стрэх. Дрэвы скідаюць з сябе снежаньскія коўдры і стаяць у чулай дрымоце. Навокал пахне смалою, карою дрэў, сырым снегам, здаецца — вясна.

А раптам з начы наляціць злосны вецер і скуголіць некалькі сутак ля вуглоў, шастае па страсе, брынкае аканіцамі, свішча ў голлі дрэў, завывае паміж будынін. Глянеш у акно: разгулялася мяцеліца, свету не відаць. Задзьмуты дарогі, насыпаны гурбы вышэй платоў — ні прайсці, ні праехаць.

— Злуецца зіма, не хоча аддаваць свайго, — кажуць на такую гульню старыя людзі.

*Яўген Крамко*



Малюнак Лізаветы Лінкевіч (Азбука. Вясёлы вулей)

*Рыгор Барадулін*

## Азбука. Вясёлы вулей

* * *

Бульба, бусел, Белавежа,
бацька Нёман з берагамі, —
Беларусі ўсёй бязмежжа
Белабог аберагае.
Адвядзе чужынцаў стрэлы
сцяг наш
Бел-чырвоны-Белы!

* * *

Валун параіў валуну:
— Падстаў спіну, а я зірну.
Так і вякуюць валуны,
Зрасліся спінамі яны.
Так вызначае ўсё вакол:
Вялікдзень, волат, вожык, вол,
Вітаў вясёлку васілёк.
Вялізны воз ваўка
валок.

* * *

Глянь,
сагнула даланю
ґ, каб змераць
глыбіню.
Дзе яно, глухое дно?
З галавой ґ не відно.
Хай тваё звыкае вуха —
ґ гучыць
заўсёды глуха:
Гарлач, галіна,
гол, гара, гаргара, гліна.
Не забудзься ж
і наконт
словаў тых,
дзе ґ званчэ:
ганак, гузік,
розгі, гонт.
Гэта клопат грамацея!

# Канцэрт з зоркай!

Мой сёмы «а» клас разам з настаўніцамі Валянцінай Бабулевіч і Аннай Вярцінскай пабываў на цудоўным канцэрце Зміцера Вайцюшкевіча. Ён прыехаў да нас з Беларусі і спяваў песні пра Каляды, а потым... пра жыццё і каханне. Мне найбольш спадабалася песня пра «Матулю» на словы беларускага паэта Генадзя Бураўкіна.

На жаль, я не змагла купіць яго кружэлкі. Мае сябры захапляліся голасам Зміцера Вайцюшкевіча. Хацелася б яшчэ паслухаць яго канцэрт.

*Вікторыя Гаць,*
*бельская «тройка»*


Практыкаванне «Падляшскага вянка»

Грыша ХАРУЖЫ
ПШ у Міхалове

## Сябры і сяброўкі

Сябры і сяброўкі
гэта добрая справа.
Сяброўкі заўсёды памогуць,
А сябры пагуляюць.
Шануй, паважай іх!
Не пакідай!
Справа няфайная, калі ты адзін!
Калі маеш сяброў і сяброўак —
ты багаты чалавек!

Аляксандра АЛЕКСЯЮК
Тапаляны, ПШ у Міхалове

## Праўда ці мана?

Гэта было так:
Восем сланоў, дзве вавёркі,
дзесяць сабак
і дванаццаць катоў.
А пасярэдзіне іх
маленькі хлапчук Яська.
Ён там сядзеў,
вочкамі на мяне глядзеў,
Гуляць са мной хацеў.
Я напалохалася і ўцякла.

Войцех БАНЦАРЭВІЧ
Лявонавічы, ПШ у Міхалове

## Аўторак

Аўторак — самы горшы дзень.
У мяне сем урокаў.
А пачынаецца так:
Гісторыя адна,
Рэлігія гэта два,
Матэматыка гэта тры,
Польская мова — чатыры,
Фізкультура гэта пяць,
Музыка пад канец,
І тэхніка на канец!

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Леў, воўк і лісіца

Леў, воўк і лісіца аб'ядналіся і пабеглі на паляванне. Яны злавілі барана, авечку і ягнятка. Кажа леў ваўку:

— Раздзялі справядліва гэту здабычу паміж намі самімі.

А воўк у адказ:

— Пры чым тут я? Сам Бог гэта ўжо раздзяліў: баран табе, авечка мне, а ягнятка лісіцы.

Усхваляваўся леў і грымнуў лапай ваўку па галавешцы, ажно ў таго выскачылі вочы на зямлю. Сеў воўк і горка завыў.

Тады леў кажа лісіцы:

— Падзялі справядліва здабычу!

А ліса ўсміхнулася і ласкава кажа:

— О, цар! Гэта ўжо сам Бог раздзяліў! Баран — табе на абед, авечка на сняданак а ягнятка на вячэру.

— Адкуль ты гэта ведаеш? Хто навучыў цябе так справядліва дзяліць дары?

— Ваўчыныя вочы, што выскачылі з яго ілба і пакаціліся на зямлю...

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 07-18

Гэта так, ці мне здалося?
Вунь гарбуз на тонкай восі,
А на ім намаляваны
Горы, рэкі, акіяны.
Г.....

Уладзімір Мацвеенка

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 25 лютага 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 3-2018: вожык. Узнагароды, кніжкі Свэна Нурдквіста, выйгралі Вікторыя Гаць, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Якуб Васільчык з Нараўкі. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 07-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3-2018:**

Успамін, ара, парк, лёд, ом, маржы, сноп, моладзь, карась, смак. Апой, прамотар, ар, космас, нос, моль, лапа, маёр, дом, джаз, на.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Магда Якубюк, Дам'ян Філімanюк** з Бельска-Падляшскага, **Марыя Ціханюк, Кася Данілюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Oparcie | | | | | | Sklep / Pocałunek | | |
| Abecadło | | Oda / Do | | | Rama / Uczta | | | |
| Bramka | | | | | | | | |
| Zgon | | | Alarm | | Granica | | Karykatura | |
| | | | | Masza / Marynarz | | | | |
| Mag | | Jemioła | | | | | | |
| | Abażur / Sen | | | | | | | |
| | | Poma-rańcz | | | | | | As |
| | | | | | | | | |
| Gont / Bierz | | | Kokos | | | | | |

# Фэст аўтараў і кніг

За намі ўжо другі выпуск беластоцкага фестывалю «Аўтары і кнігі. Падляшскае падвядзенне». Літаратурны фестываль працягваўся 9-10 лютага 2018 г. перш за ўсё ў ваяводскай ксёнжніцы, якая перасялілася ў былую Бібліятэку імя Ежы Гейдройца. Праводзіліся сустрэчы, семінары, паэтычны сеймік. Запрошаны былі дзясяткі творцаў, сярод якіх былі трое аўтараў намінаваных на Літаратурную прэмію прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага. Фестываль быў арганізаваны Падляшскай ксёнжніцай імя Лукаша Гурніцкага ў супрацоўніцтве з выдавецтвам Фонд «Суседзі». Фестываль выклікаў вялікую зацікаўленасць маладых і старэйшых аматараў кнігі ды памалу ўступае ў каляндар літаратурных падзей Беластока, прадстаўляючы літаратурную і выдавецкую карту Падляшша і развіццё мясцовай літаратуры. За два дні Ксёнжніцу наведала каля тысячы людзей. Арганізатары ўжо думаюць пра наступнае, трэцяе выданне фестывалю.

Сярод запрошаных аўтараў былі, між іншым, Анна Камінская — пісьменніца, журналістка, аўтарка бестселераў, біяграфій, між іншым белавежанкі Сімоны Косак, двойчы намінаваная на літаратурную прэмію імя Веслава Казанэцкага, у мінулым годзе за кнігу «Белавежа шэптам. Гісторыі з Белавежскай пушчы». Меў працяглую бурную сустрэчу аўтар родам са Случанкі Гарадоцкай гміны Ігнат Карповіч — празаік, літаратурны перакладчык, лаўрэат самых важных літаратурных прэмій у краіне: «Пашпарта Палітыкі», літаратурнай прэміі «Ніке», а таксама шматразовы пераможца літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага, між іншым аўтар «Сонькі», а ў 2017 годзе намінаваны на тую ж прэмію за кнігу «Miłość».

Першая бібліятэка Падляшша таксама падрыхтавала шэраг цікавых прапаноў для дзяцей. У першы дзень фестывалю, у асноўным прысвечаным самым маленькім чытачам, у агульнай складанасці больш за 350 дзяцей прынялі ўдзел у семінарах, праведзеных аўтарамі дзіцячай літаратуры — Альжбетай Янікоўскай і Агнешкай Сухаверскай, а таксама з акцёрамі Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі Бернардам Баняй і Кацярынай Сяргей. Суправаджала падзеі конкурсная выстава «Класічныя казкі ў коміксе» другога выдання міжшкольнага літаратурнага і мастацкага конкурсу. Акрамя таго, на фестывалі адбылася выстава прац Паўла Яронскага «Гульня слоў». Яронскі з'яўляецца мультыплікатарам, які ў першую чаргу выконвае свае ўласныя ідэі. На працягу доўгага часу вядзе серыю каламбураў, якой заразіў больш за сорак тысяч людзей на фейсбуку. У Галерэі «Партэр-Граўнд» адбылася таксама прэзентацыя кніг, выдадзеных на Падляшшы ў 2017 годзе — падрыхтаваў яе Анджэй Каліноўскі, які аддаў адну з большых вітрын для выданняў па-беларуску — выдавецтва Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва», Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», кніг выдадзеных «Ортдрукам» і «Братчыкам».

Навінкай другога выдання фестывалю быў паэтычны сеймік — панэльная дыскусія з удзелам паэтаў з Падляшша, якую вёў прафесар Дар'юш Кулеша. Выступілі на ім з дакладамі прафесар Януш Тараненка, паэт, літаратурны крытык, удзельнік і стваральнік паэтычнага жыцця, які вядзе літаратурную працу з моладдзю. Што адбываецца з паэзіяй у літаратурным Беластоку і яго ваколіцах, а таксама ў краіне і ў свеце? Які стан паэзіі ў нашым горадзе і ваяводстве? Гэтыя пытанні кранаў і Давід Буйна, звязаны з Галерэяй Слендзінскіх. Удзел у Рэгіянальнай асамблеі прыняло больш за 30 паэтаў, у тым ліку намінаваныя да мінулагодняй літаратурнай прэміі імя Веслава Казанэцкага Міра Лукша і Эва Владарская з Тыкоціна, лаўрэаты з мінулых гадоў Ян Камінскі з Ярылаўкі, Крыстына Канэцкая, самы старэйшы аўтар Віктар Швед. Удзельнікі спрабавалі адказаць на пытанне, што такі стан паэзіі ў нашым горадзе і рэгіёне. Дзясяткі аўтараў сканстатавала, што такой сустрэчы не было на працягу многіх гадоў.



Кшыштаф Пулаўскі (злева), Віктар Швед, Ян Камінскі



Запрашаючы да абмеркавання Януш Тараненка адзначыў, што паэты даюць сабе рады вельмі добра, хаця існуе праблема з публікацыяй твораў. Вядомая ў Польшчы і свеце паэтэса, вітруозка санэта Крыстына Канэцкая, звязаная з варшаўскім аддзелам Польскай асацыяцыі пісьменнікаў, падкрэсліла неабходнасць канфрантацыі аўтараў з айчыннай і замежнай паэзіяй. Пісьменніца і журналістка, звязаная на працягу многіх дзесяцігоддзяў з беластоцкай прэсай і шырокай культурай адзначыла, што ўпершыню ўдзельнічае ў такім сейміку. Гэта сорам, што на працягу многіх гадоў ні аднаму з вырашаючых органаў не ўдалося зрабіць нічога падобнага. Яна заўважыла, што толькі Настаўніцкі літаратурны клуб дзейнічае паслядоўна, і сістэматычна арганізуе сваю ўласную, агульнанацыянальную прэмію («Гетманская булава») і запрашае партнёраў да дыскусіі. Шкадавала, што на працягу доўгага часу не было ў Беластоку літаратурнай падзеі. (Тут запярэчылі іншыя аўтары, прыгадваючы, між іншым, фестываль «Zebrane»). Здзіўлялася, чаму так мала маладых людзей прыйшло на сеймік: — Трэба навучыцца здабываць грошы на выданні, я ведаю, што можна іх здабыць. Я ведаю, таму што я езджу на працягу 20 гадоў па розных літаратурных падзеях у краіне і ведаю, што можна ўсё сарганізаваць, трэба проста захацець гэтага.

— Мала з нас у іншым месцы, але мала хто з нас з намі, — заўважыла Тэрэса Радзевіч з Юхнаўца, вядомая ў краіне маладая паэтэса і настаўніца, лаўрэатка прэміі Казанэцкага. — Хтосьці выдае кнігу і неадкладна павінны з'явіцца прапановы сустрэч, а гэтага мне не хапае. Калі нас заўважаць у рэгіёне, таксама будзем заўважаны і ў краіне.

Кшыштаф Пулаўскі з Супрасля, вядомы перакладчык з англійскай літаратуры, стваральнік паэта Кенета Пена адзначыў, што мала хто ў Беластоку зацікаўлены ў перакладзе, а гэта дае маладым людзям літаратурнае майстэрства. Пражываючы ў Бельску-Падляшскім Андрэй Сальнікаў, філосаф, паэт і аніматар літаратурнага жыцця лічыць, што шкодзіць аўтарам адсутнасць падляшскага літаратурнага часопіса: — Калі б выдаваўся, гэта значна паўплывала б на тое, каб падняць узровень амбіцый аўтараў ды ўзровень публікацый. Тэму пацягнуў Войцех Цымбаліcты, супрацоўнік муніцыпальнага культурнага цэнтра ў Харошчы і рэдактар «Газеты ў Харошчы», які марыў аб 10-тысячных тыражах такога выдання, у дадатак бясплатнага. Анджэй Каліноўскі, старшыня Фонду «Суседзі» патлумачыў удзельнікам сейміка, якімі прынцыпамі ён кіруецца, прымаючы рашэнне аб выпуску зборніка паэзіі. Ён казаў пра кансультацыі з аўтарытэтнымі аўтарамі, якія б далі рэкамендацыю для выдання зборніка мясцовага аўтара (дэбютную кнігу Міхала Ксёнжка рэкамендавала выдавецтву Юлія Гартвіг), працу з аўтарам над адборам лепшых вершаў і пошуку рэкамендацый з-па-за асяроддзя. Ён таксама нагадаў, што аўтары павінны паклапаціцца, каб перадаць свае працы рэцэнзентам, адправіць іх на ўсе нацыянальныя конкурсы паэзіі: — Трэба прыкласці шмат сваёй працы, — раіў выдавец, — тады ёсць шанц, што нешта ў нас усё атрымаецца.

Міра Лукша расказала ўдзельнікам сейміка пра беларускі літаратурны рух у Польшчы больш за 60-гадовай працягласці, пра выданні і дзеянні творцаў і арганізатараў літаратурнага жыцця. Некаторыя аўтары і слухачы першы раз пачулі пра тое, як часопіс («Ніва») на працягу сваёй дзейнасці падтрымліваў арганізацыйна і творча самых аўтараў, друкуючы тэксты і арганізуючы літаратурна-творчыя (літаратурныя, крытычныя, выдавецкія), майстэрскія семінары і сустрэчы для аўтараў рознага ўзросту і вопыту, пра дзеянні паасобных аўтараў і выдаўцоў (Ян Чыквін і «белавежцы», Сакрат Яновіч і «Трыялогі», «Ніва» і літаратурны конкурс ды «Бязмежжа»). Пра моц і жывучасць беларускага літаратурнага жыцця на Падляшшы сведчыць лік загалоўкаў, не меншы чым аўтараў пішучых па-польску — гэта больш за 200 загалоўкаў кніг ды пастаянна выпусканыя «Тэрмапілы» ды «Год беларускі» і «Ніва», якая ад больш за 60 гадоў друкуе творы аўтараў, якія з выбару пішуць на сваёй роднай мове, ствараючы прытым польскую культуру. Вядучы аж прыпыніў пералік: «Pani Miro, my wiemy jak pani sama dużo zrobiła». «Гэта МЫ, не я!» — адказала «белавежанка» і «ніўка».

Пакідаючы сеймік, многія з удзельнікаў заявілі, што хацелі б сустрэцца зноў, пагаварыць, спрабаваць заснаваць новы літаратурны часопіс.

(лук)



Тэрэса Радзевіч (злева), Эва Владарская, Эва Міхальская, Крыстына Канэцкая, Дарота Сакалоўская



Крыстына Канэцкая



**Канстанцін ЦЕЛУШЭЦКІ**
Новаве Ляўкова

# Ёлачка

Вясна, лета праляцела.
Восень ветрам зашумела,
Залатое лісце з дрэў зрывае,
Зямлю пярынай засцілае.

Голыя дрэвы рукі ўгору падымаюць,
У Бога здароўя сабе вымаляюць.
А лес як людзі, моцна хварэе,
Таму што караед грозны ў пушчы шалее.

А ў Белавежскай пушчы елкі паміраюць
І стаяць сухія, як свечкі дагараюць.
А калі так далей у лесе будзе,
На Каляды ялінкі не прынясуць людзі.

Загіне наша традыцыя векавая,
Загінуць вершы, песень аб ёлцы не заспяваюць.
Забудуць людзі, як ёлка выглядала.
Унукі пытацца будуць: «Дзе ёлка прапала!»

# Зямля

Зямля — гэта дар ад Бога
На зямлі — жыве народу многа
Зямля — гэта горы і даліны
Зямля — гэта моры і пустыні

Зямля на зіму замірае
Зямля вясною ажывае
З зямлі збожжа дрэвы трава вырастаюць
Зямля багацця многа мае

Зямлю людзі абрабляюць
З зямлі багацце дабываюць
У зямлі — вугаль нафта газ
Усё што патрэбнае ёсць для нас

# Новая святліца

Лешукі святліцу маюць.
Яе хутка збудавалі.
Хоць яшчэ фарбай патыхае,
Людзі з усіх бакоў валяць.

Войт гміны, відаць, Лешукі палюбіў,
Вялікі прэзент ім зрабіў.
Людзі цешацца са святліцы,
Не могуць на яе надзівіцца.

Каб у святліцы сэрца біла,
Каб усім людзям было міла,
Каб былі спевы, вершы і гулянкі,
Каб не было ніколі дракі.

Сонца ў святліцу хай заглядае,
Наша моладзь няхай тут гуляе.
Тут спатканні, вечарынкі,
Кава, пернік, ну і вінка.




# Свежы хлеб

Цёплае лета да нас прыйшло.
Людзям на сэрцы ўсім весяло.
Зямля кветкамі зацвіла.
Ах, якая пахатня!

У полі збожжа вырасла як трэба.
Родныя нівы запахлі хлебам.
Камбайны збожжа збіраюць,
Гаспадары ў засекі яго пассыпаюць.

Млын свае зубы падвастрыў.
Будзе добрую муку рабіў.
Пекары муку выглядаюць,
З яе смачны хлеб выпякаюць.

Самаходы хлеб вязуць,
Людзі ў крамах хлеб ужо ждуць.
Кожны бярэ булку-дзве,
Каб хапіла ўсёй радне.



Калі згорблены бацька ад старасці, веку
Мусіць сам зарабляць на сябе,
Або маці старэнька і часта калека
Непатрэбны цяпер для цябе.
Яны былі тады толькі патрэбны,
У час як маннай кармілі цябе.
А цяпер ты вялікі, нашто табе бацька,
Ты заробіш і сам па сабе.
І гадамі працуе за грошы,
А бацькам і граша не дае.
Аднак бацькі не забудуць ніколі
Пра любімае дзіцятка свае.



**Мікалай КРАЎЧУК**
Патока — Беласток

# Сон

Прысніўся сон адное ночы:
На дне рэчкі я ляжу,
А сонца свеціць дзесь з паўночы.
То ж дзіва! — у думках варажу.
Снілася доўга тое ночы.
Так цёпла я ляжу й ляжу.
А як расплюшчыліся вочы,
Калі я толькі паглядзеў:
Сапраўды рэчка ў пасцелі
І каля ложка пацякла!
Толькі няма з паўночы сонца
І таго прыемнага цяпла...

* * *

Вяліка крыўда бацькам,
Калі іх дзеці пакінуць,
Асабліва тады, калі прыйдзе той час,
Калі сілы ў целе бацькоўскім загінуць,
Няма каму памагчы ані раз.

# Трансфармацыі

Што ж мы зробім, дарагія,
Калі мы ўжо такія:
Кожны сагнёны ў кручок.
Не пройдзеш без кладкі праз равок.
Мусіш аб штосьці апірацца,
Каб на другі бок перабрацца.
На другім беразе?.. — Дзе кладка?
Не пройдзеш усё так вельмі гладка.
І там, як хочаш, братка, жыці,
Таксама мусіш штосьць рабіці.
Кожны рабіў бы, каб прыйшлося.
Абы затрудніцца ўдалося!
Многія знайшлі сабе крыніцу:
Павандравалі за граніцу.
Улада сябе толькі глядзіць.
А простым людзям цяжка жыць.
Хутка мяняецца ва ўлад.
Усё абяцае кожны ўрад
І на вярхушку хто дастаўся.
А люд глядзеў і аблізаўся.

# Я згэтуль

Я нарадзіўся ў Патоцы,
Там ад дзяцінства ўзрастаў.
Ці хто з суседзяў мог прадбачыць,
Што я настаўнікам, вось, стаў?
Цяжкім было маё дзяцінства.
У полі трэба памагаць,
І каб ралля наша радзіла,
Яе я мусіў узараць,
Засеяць збожжа на ўсім полі,
Каб послей мог яго збіраць...
— Сынок, — казала мая мама, —
Цяжка ж табе сілы сабраць!
Быў я тады такі маленькі,
А тут пара вось рассяваць.
Сусед памог мне сеяць збожжа,
А я яму — баранаваць...
Так я да старасці дажыўся.
Пакінуў вёску назаўсёды,
З сям'ёй у горад пасяліўся,
У кватэры маю ўсе выгоды:
Вада ў хаце цячэ із крана,
Не трэба печы распаляць.
Позна ці рана я ўстану,
Магу й да поўдня паляжаць...
Аднак мне сніцца мая вёска.
Я не магу яе забыць.
Бо так як тую акаліцу
Другой не зможаш палюбіць.

1 ☞працяг

# Ніва ўзнагароджана

Адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» атрымаў шматгадовы дырэктар Гайнаўскага белліцэя і белгімназіі Яўген Сачко, які многа гадоў быў гарадскім радным і два разы быў старшынёй Рады горада Гайнаўкі.

— Адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» я ўспрымаю перш за ўсё як узнагароду для Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання і Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, у які быў пераўтвораны наш белліцэй. Лічу, што на гэтае званне запрацавалі перш за ўсё вучні і настаўнікі нашай школы, — заявіў Яўген Сачко.

Званне «Заслужаны для Гайнаўскага павета» атрымаў Віктар Бура з Гайнаўкі, шматгадовы дзеяч Беларускага грамадска-культурнага таварыства, колішні працаўнік Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя (СПКАЗ) у Гайнаўцы. З'яўляецца ён дзеячам Аб'яднання Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і карэспандэнтам «Нівы».

У ліку ўзнагароджаных званнем «Заслужаны для Гайнаўскага павета» апынуўся таксама пансіён «Белавежскае сяло» ў Будах, які вылучыўся з асяродка «Сяло Буды». У састаў «Белавежскага сяла» ў Будах уваходзяць чатыры вясковыя хаты і карчма асочніка. Дзейнасцю пансіёна кіруе Сяргей Нічыпарук, ураджэнец Залешан, знаток па драўляным традыцыйным вясковым будаўніцтве, мясцовай гісторыі і культуры, герой фільма Юрыя Каліны «Сяржа». Падчас урачыстасці сказаў ён, што радуе яго зацікаўленасць нашымі традыцыямі маладых асоб, якія наведваюць яго пансіён.


■ Адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» і дыплом з рук гайнаўскага старасты Міраслава Раманюка і старшыні Рады Гайнаўскага павета Леха Міхаляка атрымаў галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа

Адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» атрымаў Ян Сухадола з Гайнаўкі, які за час сваёй прафесійнай працы на Гайнаўшчыне перш за ўсё кіраваў будовай і мадэрнізацыяй дарог. Належыць ён да Аб'яднання Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, БГКТ, быў першым старшынёй гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія тады, калі яго духоўным апекуном быў яшчэ мітрафорны протаіерэй Антоній Дзевятоўскі. Ян Сухадола спяваў у беларускім хоры Гайнаўскага дома культуры, а цяпер ён харыст царкоўнага хору.


■ Адзнаку «Заслужаны для Гайнаўскага павета» з рук старасты Міраслава Раманюка атрымаў Віктар Бура з Гайнаўкі

Званне «Заслужаны для Гайнаўскага павета» атрымала выдавецтва «Братчык» з Гайнаўкі. Адзнаку прыняў настаўнік праваслаўнай рэлігіі ў белліцэі і белгімназіі Марк Якімюк, сузаснавальнік і рэдактар выдавецтва «Братчык». Выдадзеная ім духоўная літаратура знаходзіцца, між іншым, у многіх дамах жыхароў Гайнаўскага павета.

Звання «Заслужаны для Гайнаўскага павета» былі ўдастоены таксама парафіяльнае аддзяленне Каталіцкай акцыі ў Гайнаўцы, ксёндз Ян Красоўскі і Марыян Свенцкі, Раённае аддзяленне Польскага аб'яднання дыябетыкаў у Гайнаўцы і лекар-дыябетолаг Малгажата Петшак-Закшэўская, двое жыхароў Новабеpазова — каардынатар Аддзялення наглядальна-інфекцыйных хвароб СПКАЗ у Гайнаўцы, спецыяліст па інфекцыйных хваробах, доктар медыцынскіх навук Анна Навіцкая-Целушэцкая і каардынатар Аддзялення туберкулёзу і хвароб лёгкіх СПКАЗ у Гайнаўцы, спецыяліст па хваробах лёгкіх Юры Паўлюк, шматгадовы дырэктар гайнаўскага аддзялення банка РКО ВР Мікола Ляўчук (таксама ўраджэнец Новаберазова), войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі, сакратар Чаромхаўскай гміны Марыя Іванюк, надляснічы Гайнаўскага надлясніцтва Гжэгаж Бялецкі і Акруговы малочны каапeратыў у Гайнаўцы, дзейнасцю якога кіруе Вера Паўлючук з Галадоў.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**




Калі прыйшоў век кіно, многія казалі, што тэатр сканае. Але так не адбылося, бо, нягледзячы на большыя, чым у тэатра магчымасці, кіно не заўсёды адлюстроўвае гульню акцёраў так, каб кожны глядач мог бачыць яе, адчуваючы ўласную прысутнасць у дзеянні. Адныя з найбольш цікавых тэатральных пастановак з'яўляюцца такія, дзе распавядаецца пра традыцыйнае жыццё таго ці іншага народа, паказваецца яго побыт, звычаі, святы. Для беларусаў, самасвядомасць якіх, нават пасля чвэрці стагоддзя ад набыцця іхняй краінай незалежнасці, застаецца на надзвычай нізкім узроўні, такія тэатральныя пастаноўкі не толькі цікавыя, але і карысныя. Таму, калі з'яўляюцца тэатры, што здольныя распавесці тутэйшым пра слаўныя звычкі і традыцыі продкаў, то гэта можна толькі вітаць.

Не вельмі даўно ў сусветным павуцінні з'явіўся сайт **http://szlachtycz.by**, які распавядае пра шляхецкі тэатр „Захаранка Арт-груп". Уласна назва гэтага сайта не надта інфармацыйная — нейкі шляхецкі тэатр, нейкае прозвішча, нейкая мастацкая група. Таму, каб зразумець у чым справа, варта больш-менш уважліва пазнаёміцца са зместам тэатральнага сайта, а для гэтага зазірнуць у рубрыку „Пра нас". „Шляхецкі тэатр „Захаранка Арт-груп" — згуртаванне людзей, апантаных рознымі бакамі старадаўняй ліцвінскай (беларускай) шляхецкай культуры. Усе мы — вельмі розныя. Кожны захапляецца ў большай ступені чымсьці сваім — старадаўняй вершнай навукай альбо музыкай мінулых стагоддзяў, шабельным боем альбо колішнімі танцамі, гістарычнымі строямі альбо класічным сармацкім партрэтам... Калі ж склаcці ўсе нашы захапленні разам — атрымліваецца незвычайная жывая карцінка нашай шляхецкай мінуўшчыны. Касцяк тэатра ўзнік дастаткова даўно — першыя свае праграмы (няхай сабе і зусім „пачаткоўскія", спробныя) мы пачалі рабіць каля сямі гадоў таму", — распавядаюць пра сябе артысты.

Адказу на пытанне, хто менавіта ўваходзіць у згуртаванне, на сайце знайсці не ўдалося. Наколькі зразумела з інфармацыі, пададзенай на старонцы „Кантакты", у тэатры ёсць па меншай меры дзве дзеючыя персоны. Гэта яго кіраўнік пан Андрэй Захаранка і, відаць, жонка кіраўніка, пані Ірына Захаранка, якая займаецца збольшага адміністрацыйнымі пытаннямі.

Як належыць артыстам, яны могуць многае, і гэтае многае прапануюць. Паводле рубрыкі „Нашы прапановы", тэатр можа забяспечыць унікальнае напаўненне мерапрыемства ў шляхецкай стылістыцы для абсалютна любой праграмы — забаўляльнай, адукацыйнай ці прадстаўнічай. У пераліку карпаратыўныя вечарыны, юбілеі, дні народзінаў, вечарыны для замежных гасцей, конныя праграмы, гістарычныя паказы, паказальныя баі, дзіцячыя святы.

Асобнай рубрыкай на сайце стаіць „Батлейка", як старадаўні лялечны тэатр. „Батлейка — унікальная з'ява ў культурным полі Старой Літвы/Беларусі. Старадаўні лялечны тэатр у сумесі са старасвецкай формай службы навін, пазасеткавы колішні аналаг YouTube, магчымасць па-за палітыкай мовіць услых як раз аб ёй самой... Шляхецкі тэатр, аднойчы паспрабаваўшы паставіць батлеечны спектакль, захварэў на гэтую тэму. І, вось, хвароба вылілася ўжо ў тры поўнафарматныя аўтарскія спектаклі", — распавядаюць стваральнікі тэатра.

Каб пабачыць, як праходзяць выступленні акцёраў, варта зазірнуць у рубрыку „Галерэя", дзе месціцца фотаздымкі і відэаматэрыялы, датычныя шляхецкага тэатра „Захаранка Арт-груп".

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара




## Падзеі і асобы БНР

# 15 лютага — дзень выхаду першага нумара газеты «Гоман»

Абвяшчэнню БНР папярэднічаў перыяд, які ў нашай гісторыі часта называюць „нашанiўскім", выходзячы з назвы беларускай газеты, што фармавала нацыянальны светапогляд цэлага пакалення, нават фармацыі. Акрамя „Нашай долі", якая выходзіла зусім кароткі час і „Нашай нівы", якая стварыла падмурак нацыянальнага Адраджэння, было яшчэ адно выданне, якое пакінула яркі след у нашай гісторыі і на часе супала з БНР. Гэта беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета „Гоман" („Homan").

Першы нумар „Гоману" выйшаў 15 (28) лютага 1916 года. Газета выходзіла ў Вільні ажно да канца 1918 года з дазволу германскіх улад. Выходзіла два разы ў тыдзень кірыліцай, а з 1 верасня 1916 года і лацінкай. Рэдактарам спярша быў Вацлаў Ластоўскі, а з 33 (125) нумара 1917 года — Язэп Салавей. Калі Ластоўскі вядомы многім беларусам, то асоба Язэпа Салаўя зусім забытая.

Сацыяльна-палітычная праграма газеты набліжалася да сялянска-работніцкага сацыялізму: народаўладдзе, ліквідацыя эксплуатацыі наёмных работнікаў, ідэя кіравання грамадствам праз „усялякія таварыствы, кааперaтывы, прафесіянальныя работніцкія хаўрусы". Выступала за нацыянальна-культурнае адзінства беларускага народа, незалежную Беларускую Рэспубліку, якая магла б уваходзіць на канфедэратыўнай аснове ў адроджанае Вялікае Княства Літоўскае. Інфармавала пра сацыяльныя і нацыянальныя супярэчнасці, унутранае і міжнароднае становішча краю. Вітала зрынанне самадзяржаўя ў Расіі і нацыянальнае самавызначэнне народаў. Найвышэйшымі каштоўнасцямі вольнага грамадства лічыліся нацыянальная незалежнасць, інтэлектуальная і палітычная свабода, родная мова і культура, сацыяльны аптымізм і хрысціянская вера.

Газета надрукавала шэраг артыкулаў, нарысаў, іншых матэрыялаў па гісторыі Беларусі і нацыянальнай культуры, у тым ліку артыкулы „1491-1916" (па гісторыі беларускага друку), „У 400-летнюю гадаўшчыну" (пра „Біблію" Скарыны), „Рэфармацыйны рух на Беларусі", „Прычыны заняпаду беларускага адраджэння ў XIX ст.", „Абычаёвае права беларускага сялянства" В. Ластоўскага, „Святы Іазафат Кунцэвіч" Баляслава Пачопкі, „10-летні юбілей беларускай прэсы", „Разбітая традыцыя" (пра неабходнасць адраджэння Беларуска-Літоўскай дзяржавы) Антона Луцкевіча, „Памяці Справядліва" (пра К. Каліноўскага) Казіміра Сваяка, „Што было і што павінна быць" (пра традыцыі ВКЛ) Пётры з Арлянят.

Шэраг артыкулаў газета прысвяціла актуальным сацыяльна-палітычным праблемам. Іх напісалі Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Францішак Аляхновіч і іншыя. На старонках асвятлялася дзейнасць Дзяржаўнай думы Расіі, пераважна выступленні эсэраў і сацыял-дэмакратаў меншавіцкага кірунку, газета друкавала інфармацыю з франтоў, паведамленні германскага генеральнага штаба (рубрыка „Афіцыйны аддзел"), меліся рубрыкі „У Вільні і ваколіцах", „З усяго свету", „З усяго краю", „Весткі з Расіі", друкаваліся тэлеграмы, абвесткі беларускіх кнігарняў, камерцыйная рэклама. Газета надрукавала разнастайныя матэрыялы па гісторыі нацыянальна-культурнага і літаратурнага руху, легенды, апрацаваныя Янам Баршчэўскім, мемуары Альгерда Абуховіча, некрологі Цётцы, Максіму Багдановічу, Аляксандру Ельскаму. Упершыню апублікавала некаторыя творы будучых беларускіх класікаў — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і іншых літаратараў.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# З думкай пра птушак

Нават зімой мала хто з вясковых жыхароў думае пра дапамогу птушкам. А зараз халодны люты і дапамога патрэбная. Цяпер на вёсцы не тое, што калісьці, няшмат г.зв. рольнікаў. Мала хто займаецца жывёлагадоўляй. Толькі некаторыя яшчэ гадуюць малочных кароў. Нават у даволі вялікім тым ці іншым сяле ўжо не ўбачым коней. Сялянкі-гаспадыні не хочуць гадаваць курэй, гусей і качак. Яны ж як бы не было на пенсіі. Навошта ім яшчэ клапоціцца і працаваць.

Чаму пра гэта пішу? Бо калі няма гадоўлі хатняй жывёлы ды курэй, як тады жыць зімой курапатцы ці верабʼю. Дзе падхапіць зярнятка. На вялікіх панадворках глуха і пуста як на сапраўднай пустыні. Чым тая шэрая птушачка можа пажывіцца? Ды і не мае дзе схавацца ў снежную мяцеліцу. Няма прыязных дзікім птушкам драўляных стадол і хлявоў накрытых саломай. Зніклі стагі з сенам. Таму цяпер мала вераб'ёў. Рэдка калі прылятаюць у вёску снегіры і сініцы.

Паўвека таму мы з братам чакалі прылёту птушак у наш заснежаны агарод каля хаты. А вераб'ёў, варон, амялушак і сарок было тады многа. Мы чакалі ля акна, калі ў зімні дзень або пад вечар да нас прыляцяць перш-наперш каляровыя птушкі. Яны нас развесялялі. Мы папрасілі бацьку зрабіць для іх кармушку і павесілі яе на яблыні перад акном. Мы ў кармушку сыпалі сланечнік, зерне проса і льну. Прыносілі кавалачкі нясоленай саланіны або мяса. Птушкі вельмі любілі гэты корм і таму прыляталі да нас цэлымі чародкамі. Прыляталі яны таксама ў вялікі агарод, у якім дзяўблі сухія кусцікі пустазелля і шукалі насення. Дзяцел сядаў на старыя дуплістыя яблыні і грушы. Не абмінаў старой нашай ліпы і вярбы, якія раслі над прыдарожным ровам.

Тады ў Новым Ляўкове было многа ліставых дрэў. Летам вёска патанала ў зелені. Цяпер ліставых дрэў мала. Пенсіянеркам (перш-наперш удовам) не ахвота зграбаць апалае восеннюю лісце. Давай ім тэлесерыялы пра каханне. Будуць глядзець і глядзець на тэлеэкран удзень і ноччу. Не адна мне казала: «Кароў або курэй гадаваць не хачу, яны забруджваюць панадворак. І лісце зграбаць і збіраць не буду. Гэта ж столькі работы. Я ж заслужаная пенсіянерка. Колькі ж можна працаваць». Ім — нават зусім нестарым жанчынам — непатрэбная хатняя птушка, а будуць займацца снегірамі або вераб'ямі... То-то не. Не туды дарога.

Калі я хадзіў у Пачатковую школу ў Старым Ляўкове, мы рабілі кармушкі і прыносілі зерне для нашых крылатых сяброў нават падчас зімніх канікулаў. Птушкі ж чакалі корму кожнага зімовага дня. Кармушкі былі пры школах у Лешуках, Ахрымах, Плянце. Зараз працуе ўсяго адна школа ў Нараўцы ды і школьнікі пра птушак забылі. Іх увагу занялі, між іншым, камп'ютарныя гульні. Жывая прырода — па ўсім відаць — іх менш цікавіць. Вось як.

Цікава мне было бачыць, як зараз падкормкай птушак займаюцца, між іншым, Галіна Бірыцкая з Плянты, Канстанцін Ярашук з Новін і Сымон Харкевіч з Новага Ляўкова (гэтыя вёскі ў Нараўчанскай гміне). Да спадара Канстанціна прылятаюць розныя птушкі, якія ў нас зімуюць, і апрача іх яшчэ дзятлы. Мітуслівыя крылатыя госці адзінокаму чалавеку прыносяць радасць. А вось спадар Сымон яшчэ робіць прыгожыя домікі перш за ўсё для шпакоў і вясной прымацоўвае іх на дрэвах у лесе. Ён любіць спеў гэтых ранневесновых птушак. Пасадзіў нават бярозавы лес на сваім участку каля дома. І мае „свае” грыбы.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ




ЗАПРАШЭННЕ

Арганізацыйны камітэт святкавання стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі сардэчна запрашае

Чытачоў Нівы

на ўрачыстыя мерапрыемствы, якія адбудуцца ў нядзелю 25 сакавіка 2018 года ў Беластоку.

У праграме:
10:00 Царква св. Яна Тэолага, вул. Збігнева Герберта 1
• Святая літургія і малебен за беларускі народ

15:00 Падляшская опера і філармонія, вул. Падлясна 2
• урачыстыя выступленні і віншаванні
• выступ танцавальнага дзіцячага калектыву „Падляшскі вянок”
• канцэрт Лявона Вольскага

# Будзе новы прыстрэшак

Побач царквы ў Старым Ляўкове Гайнаўскага павета яшчэ ў мінулым стагоддзі пабудавалі пачакальню на тамашнім прыпынку аўтобусаў ПКС. Цяпер яна брыдкая, брудная, занядбаная. У ёй цёмна, панура і непрытульна.

Я пакрытыкаваў яе ў „Ніве” — у 36 нумары ад 3 верасня 2017 года ў допісе „Брыдкая пачакальня”. У канцы яго напісаў: „Можа справай добраўпарадкавання пачакальні ў Старым Ляўкове зоймуцца солтыс і радны? Ужо даўно пара”.

2 лютага гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове адбыўся вясковы сход жыхароў з удзелам раднага Ігара Бірыцкага і солтыса Старога Ляўкова Яўгена Бандарука, раднага і солтыса Новага Ляўкова Янкі Целушэцкага ды войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча. Прысутныя разглядалі розныя справы дзвюх вёсак, у тым ліку, між іншым, вышэйзгаданай пачакальні ў Старым Ляўкове. Вырашылі разабраць старую пачакальню і на яе месцы паставіць новы эстэтычны прыстрэшак.

(яц)

# 18.02 — 24.02

**(22.03. — 20.04.)** Здабудзеш вялікае прызнанне і папулярнасць. Але 18-22.02. можаш неадэкватна зрэагаваць на сітуацыю. Будзеш мець інтэлектуальныя заняткі. Энергіі многа, не менш непахіснасці. Але можаш не справіцца з баланам у паперах. Не згубі важнага дакумента ці не скасуй чаго ў камп'ютары. Грошай прыбудзе, але лепш іх прыхаваць, чым выдаваць.

**(21.04. — 21.05.)** Бярыся за вучобу, пашырай свае гарызонты. У пары проста як у казцы. Могуць здзейсніцца твае мары аб прытульным, прыгожым жытле. Можаш выкінуць старыя гаргары з хаты. Добры час на рамонты. 19-23.02. адчуеш вялікі прылiў натхнення. 20-21.02. акажаш камусьці падтрымку або дасі разумную параду. Ад 22.02. будзеш мець аж залішне ўсялякіх уражанняў. 19-23.02. здзейсніш якуюсьці сваю вялікую мару.

**(22.05. — 22.06.)** Падкручаны тэмп жыцця. Самотны Блізнюк адчуе вялікі прыліў энергіі і ўдач у іншага полу. З 23.02. можаш пастарацца на працы за павышэнне. Мноства задум на ўласны бізнес, але не кідай усіх сіл на адзін праект. Афармляй усе адкладзеныя справы. Не бяры нічога ў крэдыт, лепш пазыч у даверанай асобы.

**(23.06. — 23.07.)** 20-22.02. многа спраў стане па-дзяціннаму простымі. Вялікае шчасце ў інтарэсах і пачуццях. Арганізуй рамантычныя сустрэчы. Самотны Рак няхай не сядзіць дома, можа сустрэць сваё наканаванне! Але лепш не сустракайся з былым каханнем, бо кончыцца ўсё не лепш чым было. Вялікая дабаўка інспірацый; будуць задумы на развой уласнай кар'еры і большы заробак. З 24.02. можаш выбрацца ў падарожжа, неабавязкова службовае, але кантакты наладжаныя ў яго час развінуць табе крылы.

**(24.07. — 23.08.)** Вялікі скок у рэйтынгу папулярнасці. Ахвота і нагоды да смелых задум. У парах ацяпленне, а самотных Ільвы няхай не хаваюць нумар свайго тэлефона як зрэнкі вока. Але будзе варта зашыцца дома, пакухарыць крыху па-экзатычнаму. Дарослым дзецям дай волю, няхай ідуць сваёй дарогай і выбіраюць самі. Рэалізуй свае праекты.

**(24.08. — 23.09.)** Кампанейскі поспех. 20-22.02. дасягнеш больш чым планаваў. Сустрэнеш цікавых людзей, ад якіх многа навучышся. Асабліва з 23.02. (да 27.02.) сустрэча з вельмі цікавай асобай, не злуйся на яе — яна будзе табе патрэбная. За працу цябе добра пахваляць. Але шукай саюзнікаў, з імі зможаш болей. Дзевы, працуючыя на мастацкай ніве, 19-23.02. будуць мець прыліў магутнага натхнення.

**(24.09. — 23.10.)** Шчасце і ўдачы — лёс табе спрыяе. Новыя інспірацыі. Могуць быць спакусы, але лепш не ўключайся, бо партнёр усё адкрые. З 22.02. (да 28.02.) не пераборшчвай з практыкаваннямі, спортам, пагражае кантузія. Вельмі асцярожна з алкаголем і лекамі — 19-23.02. можаш на гэта кепска зрэагаваць; цяпер лепш не купляй чагосьці ў хату, бо купіш такое, што пасля выкінеш. 20-24.02. магчымыя непаразуменні ў кампаніі.

**(24.10. — 22.11.)** Магчымыя спрэчкі з раднёй 20-22.02. Але без іх не дасі сабе рады! На рабоце вернуцца непрысутныя і здымуць з цябе большасць абавязкаў. Абучэнні, курсы будуць для цябе вельмі карысныя. З 24.02. можаш рассакрэціць нейкую таямніцу. 18-20.02. не ўводзь сілай змен. Мноства працы. Але дачакаешся змен на лепшае. Падтрымка кіраўніцтва і аўтарытэтаў. 19-23.02. можаш знайсці асобу, пры якой мацней заб'е тваё сэрца; не дазволь ёй адысці, пабудзь з ёю хоць пры каве.

**(23.11. — 22.12.)** Трэба будзе неадкладна заняцца хатнімі справамі. На працы таксама шмат абавязкаў, сходаў, дыскусій, з якіх мала што вынікне. Усе інфармацыі правярай. 18-20.02. не шукай неісночых праблем. З 22.02. (да 28.02.) твой партнёр можа „мець мухі ў носе”. Не дазваляй іншым уключацца ў вашы справы. З 24.02. старайся не спазніцца, правярай ці ўсё ўзяў з сабою.

**(23.12. — 20.01.)** Падарожнічай і пашырай свае гарызонты. Лепш не давай ці не бяры заручальнага пярсцёнка; з 23.02. можаце моцна пасварыцца праз радню. Калі думаеш пра змену працы, выкарыстай свае кантакты. 20-22.02. можаш пачаць новыя бізнесовыя мерапрыемствы.

**(21.01. — 19.02.)** 18.02. не навязвай сваёй думкі. Да 20.02. пік тваёй папулярнасці. Вырасце зона тваіх уплываў. У прафесіі ўзмоцніш сваю пазіцыю. Давярай свайму шчасцю, бяры, што дае табе шчодры лёс! Вадалей з другой дэкады — часцей станавіся на вазе, еж меншыя порцыі страў.

**(20.02. — 21.03.)** 19-23.02. вялікае натхненне Рыбам-мастакам. 18-20.02. пільнуйся — пад уплывам эмоцый можаш памыліцца. Спакойна складвай планы на гэты год. 19-23.02. можа наступіць рэнесанс пачуццяў у пары. 18.02. можаш аднавіць старыя ды карысныя кантакт. 18-20.02. вельмі пільнуйся што ясі, каб не атруціцца.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — афарызм скіфскага філосафа Анахорса.

1. падтрымка, фундамент = 7 _ 6 _ 9 _ 50 _ 51 _;
2. каралева ад валочнай памеры = 10 _ 55 _ 45 _ 33 _;
3. клекатун, што схапіў жабу за каўтун = 34 _ 22 _ 31 _ 30 _ 32 _;
4. орган слыху = 17 _ 48 _ 59 _ 16 _;
5. супрацьлеглы ўваходу = 28 _ 35 _ 36 _ 37 _ 8 _;
6. ён і ў роце бывае, і ў баране, і ў граблях = 1 _ 18 _ 38 _;
7. кавалерыя = 3 _ 4 _ 5 _ 21 _ 20 _ 19 _ 23 _;
8. колер шэрсці ў жывёл = 54 _ 29 _ 41 _ 52 _ 53 _;
9. адсутнасць існавання, жыцця = 11 _ 39 _ 24 _ 46 _ 27 _;
10. адзінка электрычнага супраціўлення = 26 _ 25 _;
11. маці паніча = 15 _ 14 _ 13 _ 42 _;
12. беларускае магнацкае прозвішча ў... лапаце = 49 _ 2 _ 56 _;
13. чалавек у ссылцы = 40 _ 47 _ 58 _ 43 _ 44 _ 57 _ 12 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 |
| | | | | 37 | | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 |
| | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | | 54 | 55 | 56 | 57 | 58 | 59 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**

Язык, Дэга, серп, ёлка, ацёк, ліха, ям, водар, хлюпат, сабатаж, сто, спіраль, націск.

Рашэнне: **Слёзы — гэта ціхая мова болю і радасці**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Задумаў я прайсціся па пушчы, што не надта далёка ад Беластока. Гарадскім аўтобусам дабраўся цераз Саўляны і Каракулі ў Цеснае. А там ужо цяперашняя Кнышынская, а даўней Букштальская, пушча. Іду лясною дарогаю наўгад у напрамку Краснага, дзе ўзводзіцца эстакада новай дарогі ў напрамку Супраслі; а далей мне мроіцца прайсціся ў Агароднічкі, Навадворцы і Васількаў. Па дарозе мае быць возера Камоса, якое ў сапраўднасці з'яўляецца штучным вадаёмам.

Як задумаў, так і падаюся ў пушчу. Шукаю пазначанага на тапаграфічных картах возера, але на месцы таго возера амаль няма, вада з вадаёма спушчана, замест лясного адлюстравання блакітнага неба толькі чорнае балота з лапікамі вадзянога люстра. Праходжу па дамбе, лаўлю паметкі краязнаўчай дарожкі, па якой спадзяюся трапіць у Краснае. Лясныя краявіды захапляюць сваім прыродным багаццем. Тут нашумеўшыя ў Белавежскай пушчы караеды жывуць быццам у згодным сімбіёзе з елкамі, быццам на Ноевым каўчэгу, уяўляючы, што старазапаветны праведнік забраў на борт свайго выратавальнага судна не толькі фаўну, але і саджанцы фларыстычнага тварэння. Той сімбіёз такі, што побач сябе стаяць і пад'едзеныя караедамі засохлыя елкі, і здаровыя. І пакрыўленыя ў незвычайныя формы пушчанскія дрэвы. І высечкі лесу тут таксама не з'яўляюцца нейкай сенсацыяй, якая мяняе ход сусветнай натуральнай гісторыі. Тут адчуваецца нармальнасць прыроднага быцця, без падмаляванай палітычнымі эмоцыямі псеўдаэкалагічнай гарачкі.



■ Калода

projektu warszawskiego architekta Hugo Kudery, uznana jako jedna z doskonałych realizacji tegoż stylu. Nad wejściem mozaika przedstawiająca Chrystusa Pantokratora. Za kaplicą mogiła prof. Witolda Sławińskiego — botanika, pomysłodawcy i inicjatora ochrony walorów przyrodniczych Puszczy Knyszyńskiej".

Пра Захертаў з даўняга даведніка: „Вильгельмъ Захертъ, впоследствіи баронъ, былъ однимъ изъ первыхъ суконныхъ фабрикантовъ въ Россіи. Другой подобный ему, Штиглицъ, основалъ фабрику близъ Петербурга, а Захертъ на западе Россіи, въ Супраслѣ. Русское правительство, доверяя обещаніямъ Захерта — развить въ Россіи лучшее шерстяное производство, предложило Захерту избрать какое либо казенное имѣніе въ западной Россіи для основанія фабрики, и Захертъ нашелъ удобнымъ мѣстомъ Супрасль". Супрасль аказалася зручным месцам не толькі для закладкі славутага манастыра, але і для развіцця тэкстыльнай прамысловасці.

Асаблівай архітэктурнай жамчужынай гэтых могілак з'яўляецца пахавальная капліца Бухальцаў. Гэта не толькі архітэктурная прыгажосць, але таксама сведчанне незвычайнай любві. Найбольш славутым у свеце архітэктурным любоўным помнікам з'яўляецца бадай комплекс Тадж-Махал на захадзе Індыі, але і помнік у Супраслі займае дух ад захаплення...

Захерты спярша пабудавалі палац у цэнтры Супраслі, пасля адкупіў яго Адольф Бухальц, які закахаўся ў Адэлі, дачцэ Карла Шэйблера, аднаго з першапачынальнікаў прамысловай магутнасці Лодзі. Менавіта такой знакамітай нарачонай трэба было прызначыць і знакамітае жыллё. Адольф пышна разбудаваў куплены палац. Шчаслівае каханне было нядоўгае — у час коннай прагулкі спужаныя коні панеслі Адальфаву павозку, смяротна яго параніўшы. Маладая ўдава ўзвяла каханаму мужу вытанчаную пахавальную капліцу, куды штодзённа цягам трыццаці гадоў, аж да сваёй смерці, ускладвала кветкі...

# Прагулка не толькі па пушчы

Краснае мела быць недалёка згаданага вадаёма і я даверліва спадзяюся трапіць у тое прыгожа названае ўрочышча. Аднак чым далей у лес, тым больш дрэў. На адным з іх вывешка ў памяць пакойнага фатографа Віктара Волкава, а побач і валун у ягонае ўшанаванне. А недалёка і паказная борць. „Старапольская энцыклапедыя" Зыгмунта Глогера: „Badania naukowe przyznały Słowianom odwieczną znajomość rolnictwa i bartnictwa, a żaden kraj europejski — jak twierdzi Szajnocha — nie dorównał w hodowli pszczół okolicom nadwiślańskim. Pisarze dawni zapewniają, że kwitły tam jakieś szczególnie słodkie zioła, wonіały „ogromne lasy lipowe" — roskosz pszczół, odwdzięczających się słynnym lipcem. Przy takiej roślinności nie potrzebowały pszczoły nadwiślańskie sztucznego hodowania; lada wydrążony pień służył za ul, lada bór był pasieką. Całe osady trudniły się wyłącznie pszczelnictwem, a każdy z osadników składał coroczną daninę po 20 urn miodu. Uzyskiwano go tyle, iż można było obdzielić nim całą Germanję, Brytanję i najdalsze strony Europy Zachodniej. Uchodził też miód, podobnie jak i futra w Polsce piastowskiej, za rodzaj monety, t.j. za środek ułatwiający wymianę różnych przedmiotów. Niektóre winy (kary) sądowe opłacano miodem. Krążki i świece woskowe stanowiły zwyczajne kary duchowne za grzechy i ofiary na kościół...".

„Энцыклапедыя Вялікага Княства Літоўскага": „Першай формай культурнага пчалярства было бортніцтва — развядзенне пчол у борцях, прыстасаваных натуральных або адмыслова выдзеўбаных штучных дуплах у жывых дрэвах. Наступны этап — калоднае пчалярства; пачало развівацца з паяўленнем у 16. ст. калоды — пераноснага неразборнага вулея. Калоду рабілі з суцэльнага кавалка дуплістага дрэва (пераважна хвоі). Дакладны час паяўлення калоды не вызначаны. У паэме М. Гусоўскага „Песня пра зубра" (1523) калоды згадваюцца як рэаліі добра вядомыя і шырока распаўсюджаныя. Паступова разам з ляснымі сталі ўзнікаць сядзібныя пасекі, што было абумоўлена экалагічнымі і сацыяльна-эканамічнымі прычынамі: масавай высечкай лесу, распаўсюджаннем такіх лясных промыслаў, як здабыча смалы-жывіцы, выраб паташу, выпальванне драўнянага вугалю, нарыхтоўка лесаматэрыялаў, а таксама павелічэннем мядовага падатку. Пераносілі калоды на сядзібу і састарэлыя пчаляры, якія не маглі займацца лясным пчалярствам. Пасечнае пчалярства, якое дазваляла перавозіць калоды з месца на месца і ўстанаўліваць іх на зямлі, значна аблегчыла працу, эканоміла час, пазбаўляла пчаляра залежнасці ад уладальніка лесу, забяспечвала лепшы догляд пчол і кантроль за развіццём пчаліная сям'і". У пушчы борцю названа калода.

Падаўся я далей і перада мною паказаліся задворкі нейкай мясцовасці; былі гэта задворкі Супраслі. Неўзабаве з узгорка паказаўся і сам горад. Пра Супрасль у нас найбольш пісалася і бадай пішацца ў кантэксце тамашняга Благавешчанскага манастыра. Цалкам слушна, бо гэта культурная жамчужына нашага старонння. Але ж у гэтай мясцовасці ёсць і іншыя вартыя карпатлівай увагі аб'екты. Вось знайшліся яны на шляху маёй туды вандроўкі. А больш дакладна — знаходзяцца яны на супрасльскіх могілках, што распаложаны абапал Беластоцкай вуліцы.

На могілках, што з усходняга боку вуліцы, даведка: „Pierwotnie — cmentarz unicki założony w końcu XVIII w. Po kasacie Unii w latach czterdziestych XIX wieku podzielony na część prawosławną [wschodnią] i katolicką [zachodnią]. Obecnie całość cmentarza należy do parafii katolickiej. Drewniana cerkiew cmentarna p.w. Św. Pantelejmona została dobudowana w 1875 r. do murowanej wieży, powstałej w końcu XVIII wieku. Współcześnie — kaplica cmentarna p.w. Wszystkich Świętych".




■ Памятка Віктару Волкаву



■ Капліца Усіх Святых, раней — Панцеляймона

На другім баку вуліцы Беластоцкай другія могілкі; даведка: „Pierwotnie — cmentarz ewangelicki założony w latach czterdziestych XIX wieku. Obecnie całość cmentarza należy do parafii katolickiej. Neoklasycystyczna kaplica grobowa Zachertów z 1885 r., projektu warszawskiego architekta Henryka Żydoka. Neogotycka kaplica grobowa Buchholtzów z 1904 r.,

Варта пры нагодзе прысвяціць пару слоў і бацьку Адэлі; Вікіпедыя пра Карла Шэйблера: „Pochodził z rodziny niemieckiej wyznania ewangelicko-augsburskiego. Jego ojciec posiadał fabrykę sukna w Niemczech. W 1848 przyjechał do Królestwa. W 1852 założył w Łodzi spółkę, która miała importować maszyny włókiennicze, następnie uruchomił przędzalnię bawełny. W rozpoczęciu samodzielnej kariery przemysłowca pomógł mu bogaty ożenek w 1854 z Anną Werner, córką właściciela fabryk sukna w Zgierzu i Ozorkowie oraz cukrowni w Leśmierzu. Posag żony przewyższał dwukrotnie jego własne oszczędności. Zgromadzone w ten sposób sumy, wsparte kredytami, pozwoliły na otworzenie w 1855 pierwszej fabryki — w pełni zmechanizowanej przędzalni. Inwestowanie w najnowocześniejsze ówcześnie maszyny i nowinki techniczne pozwoliły mu na zajęcie miejsca lidera w przemyśle bawełnianym Królestwa Polskiego. Karol Scheibler swoją działalnością rozpoczął nową epokę w dziejach przemysłowej Łodzi, zapewnił jej czołowe miejsce w Europie w dziedzinie przemysłu włókienniczego. Dbając o rozwój przemysłu, pamiętał też zawsze o swoich współobywatelach. Zarówno sam Karol Scheibler, a po jego śmierci wdowa po nim, Anna z Wernerów, jak i syn Karol Wilhelm, córka i zięć — Matylda i Edward Herbstowie, łożyli olbrzymie sumy na budowę potrzebnych miastu gmachów: szkół, szpitali, kościołów, wspierali wszelkiego rodzaju charytatywne akcje. W marcu 1879 roku car Aleksander II nadał mu Order Świętego Stanisława II klasy za usługi okazane towarzystwu opieki nad żołnierzami rannymi i chorymi. Wartość majątku, jakim dysponował u schyłku życia, wynosiła ponad 14 milionów rubli. Takiej fortuny na ziemiach polskich nie dorobił się żaden inny ówczesny przemysłowiec". З іншай даведкі: „Хлопчатобумажная фабрика Карла Шейблера занимала около 14% всей территории города, 500 гектаров, а общий объем всех зданий на ее территории превышал миллион кубометров. При этом, обладая миллионными состояниями, многие лодзинские фабриканты не забывали о тех, кто им их принес. Тот же Шейблер за собственные деньги выстроил рядом со своей фабрикой целый жилой поселок для ее работников. Восемьдесят один двух- и трехэтажный дом, школа и больница — существование пролетариата за пределами производственных корпусов было сделано максимально комфортным. Средняя квартира здесь имела площадь 35 квадратных метров, состояла из гостиной, кухни, кладовой и санузла. Конечно, современным стандартам жилья они соответствовали мало, но для второй половины XIX века и рабочего класса такие дома были сродни откровению. Тем более что их содержание брала на себя фабрика, обеспечивавшая текущий и капитальный ремонты, уборку территории, ее освещение и так далее". Гэта ніяк не ладзіцца з тым вобразам капіталіста, які ўнушаўся ў нас у мой школьны час...

Варта было прайсціся ў Супрасль. З Супраслі падаўся я ў Краснае. А там менавіта ўзводзіцца эстакада пад беластоцка-супрасльскую шашу. Месца маляўнічае, можа з аўтамабіляў не надта будзе відаць усю красу Краснага, але з высокай веладарожкі — напэўна.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 07